# НА ДОБРАЕ ЗНАЁМСТВА

Аднойчы ў нядоўгім жыцці Федэрыка Гарсія Лорка наведаў Кубу. Яшчэ з палубы карабля ён ахапіў вокам спачатку лінію зямлі ў блакітнай смузе, а потым — тытунёвую кветку, вакол якой біў паклоны белы прыбой, тытунёвую кветку, якую пагойдвала Карыбскае мора пад шалёным сонцам, пакуль ветрык ціха граў на струнах гонкіх пальмаў, нібы напяваў невядомыя, трапяткія паданні. Гэтак і запісаў Федэрыка, як толькі ўбачыў востраў: «Арфа чуйных стваляоў... *тытунёвая кветка...*»

Сёння гаворым пра паэзію Кубы, і трапнае параўнанне вялікага Федэрыка набывае больш глыбокі сэнс, раскрываецца запаволенай кіназдымкай на нашых вачах, сапраўды, як тытунёвая кветка, у якой заўсёды адчуваецца мудрая сціпласць кубінскага народа і невынішчальная сувязь з зямлёю,— нават каробачка кветкі, як і засушаны ліст тытуню, мае колер сваіх каранёў. І кожны, хай самы тонкі карэньчык памятае пот і кроў, якімі палівалі яго стагоддзямі, ляск бізуна, які прымушаў хавацца, палахліва шукаць ненатрэбную карэнню глыбіню. Мабыць, і таму кубінскі тытунь — лепшы ў свеце. Апрача таго, ён жа дома, расце на роднай глебе.

А бізун нястомна множыў крывавыя змейкі на горкай, разгарачанай скуры рабоў. Рабамі сталі народы, якія спрадвеку жылі на востраве. Рабамі сталі і нашчадкі пяцідзесяці плямёнаў Афрыкі, якія апошнім пры жыцці галерным шляхам перасякалі акіян жаху, каб працаваць на чужых плантацыях, каб існаваць бяспраўнымі чужынцамі і жыць памяццю, толькі памяццю.

Разнамоўе ўскладняла развіццё самасвядомасці люду, ішло на карысць іспанскім, англійскім і, канечне ж, амерыканскім прыхадням. Але гэта — да пары. Зліццё гэтакіх розных па мове, традыцыях і рэлігіі пляменаў (афрыканскія рабы апынуліся на востраве пасля гвалтоўнай хрысціянізацыі абарыгенаў), зліццё пляменаў, блізкіх толькі па пакутах няволі на зямлі адзінай, паступова і немінуча стварала новую і своеасаблівую нацыянальную гісторыю, яскравую і самастойную *афракубінскую* культуру. Рытуальныя скокі пад трывожны гул барабанаў яшчэ адбываліся моўчкі, бо бледнатварыя і сытыя плантатары, іхнія наглядчыкі забаранілі спевы ды нават просты смутак, а пад той час ужо тайная патрэба ў еднасці, ў агульнай для ўсіх мове наспявала. Народы не ствараюць мовы дзеля заняволення, і вялікая іспанская мова ўвабрала самыя трапныя, непаўторныя словы індзейцаў і афрыканцаў, стала нацыянальнай, народнай моваю кубінцаў. Гэта, зразумела, толькі гаворыцца хутка: іспанцы адкрылі востраў у 1492 годзе, але адкрыццё першага універсітэта, гэта значыць фактычнае прызнанне права народа на развіццё сваёй культуры, прынёс 1728 год. І адтуль пачынаецца летапіс кубінскай літаратуры, яе галоўных да нашых дзён жанраў: паэзіі і апавядання.

Шлях маладой літаратуры — не адна асфальтавая роўнядзь, і наогул ці патрэбна роўнядзь? Сучасная кубінская паэзія ўзнікла ў канцы XIX стагоддзя, на грабяні антыкаланіяльнай барацьбы і таксама перажыла даволі складаныя этапы. Быў час, калі паэты цураліся народнай мовы і пісалі выпусташаныя пурытанскія вершы. Нават слова «мулатка» ці, скажам, «негр» не мелі месца ў паэзіі «краінымулаткі», як называе сваю радзіму Нікала́с Гільен.

Дарэчы, самыя вядомыя вершы, якія прынеслі Нікаласу Гільену сусветнае імя, ён надрукаваў у красавіку 1930 года. Гэта былі «Матывы сона». Соны — гэта сутыкненне розных пляменаў, калі музыка і паэзія яднаюцца ў песні народнай. Соны — гэта самавыяўленне праз народнае мастацтва.

Публікацыя Нікаласа Гільена, нібыта выбух, страсянула застойнае паветра. Літаратурныя ды іншыя кансерватары ўзбунтаваліся, маўляў, быдла ў паэзію лезе, мулаты, якія сяк-так «выбіліся ў людзі», не хацелі гаворкі пра маці-кухарку ці бацьку-слугу, а народ упершыню адчуў, што паэзія належыць яму і нікому болей. Адразу з'явіліся розныя добрыя мелодыі на словы сонаў Нікаласа Гільена, з таго часу прызнанага народнага паэта Кубы.

Калісьці нацыянальны герой краіны Хасэ Марці, паэт, які мусіў кінуць паэзію (чытай: вырваць з сябе сэрца, каб цалкам аддацца рэвалюцыі), гаварыў, што хто хоча бачыць сапраўдную народную культуру, павінен змагацца за незалежнасць радзімы. Паэзія яго радзімы прайшла крок за крокам усе пакутлівыя сцежкі падполля і выгнання, тэрору і партызанскай барацьбы да вялікай перамогі 1959 года, і сёння вольная Куба мае багатую паэзію, якая актыўна перакладаецца на мовы народаў свету.

Відавочна, што спробы адлюстравання такой паэзіі ў двух словах самай цікавай прадмовы, шчыра кажучы, марныя. Нашто абоймы імёнаў і агульныя характарыстыкі, калі кожны аўтар, які прадстаўляецца ў нашай невялікай анталогіі, яскравая асоба (паэт заўсёды асоба), калі кожны аўтар заслугоўвае асобнай кнігі з грунтоўнай і цікавай прадмовай!

Улічваючы гэтыя акалічнасці, выдавецтва «Мастацкая літаратура» вызначыла нам больш сціплую, але высакародную мэту: упершыню на беларускай мове выткаць жывое палатно сучаснай паэзіі Кубы на добрае знаёмства.

Трымайце ж, дарагі чытач, тытунёвую кветку! Мы ўпэўненыя, яна будзе жыць і ў вашым сэрцы!

КАРЛАС ШЭРМАН

# Баніфацыё Бірнэ

(1861—1936)



---

## МОЙ СЦЯГ

Я крыляю з далёкага краю.
Родны бераг, ратуй ад адчаю!
Сцяг Айчыны вачыма шукаю,
ды з маім іншы сцяг заўважаю!

Дзе ж ён мой, прыгажэйшы на свеце
сцяг кубінскі, яго з карабля я
на дасвецці здалёку прыкмеціў,
больш тужлівых сцягоў не бывае!

З верай, што зачакалася волі,
я сцвярджаю, і сведкай адвага:
двум сцягам не ўзвівацца ніколі,
дзе майго аднаго хопіць сцяга!

На палях, дзе магілаў барозны,
біўся сцяг у змаганні суровым,
бедным воінам, стойкасцю грозным,
сцяг быў саванам ганаровым.

Мужнасць дрэўка трымала аберуч,
сцяг не мог у баі пахіліцца —
і кубінца, што ў сцяг свой не верыць,
закляйміць трэба як палахліўца!

У астрогах не выцвіў, не згінуў,
не пачуў ані стогну ў жалезе,
а сляды яго ў іншых краінах —
гэта надпісы сонца на снезе...

Бачыце вы яго? Сцяг мой горды,
што наёмным не быў аніколі,
хоць адна на ім свеціцца зорка —
ад самотнай святла, значыць, болей.

Я ў душы яго вывез з выгнання,
не прыспаў успамінамі ў скрусе.
Чэсць яму аддаваў я ў пашане
і лунаць у радках маіх змусіў.

Хоць ён нікне журботна, абвяла,
клічу сонца, загнанае ў стоме,
каб яго, каб яго асвятляла
на раўніне, на моры, на строме!

А калі сцяг мой пойдзе на мукі
і яго пашматуе знявага,
мерцвякі, ўзняўшы дрэўкамі рукі,
абароняць нясхіленасць сцяга!

## ЛЮБЛЮ

Люблю самоту ачахлага схіла,
стары карабель, што гайдае стому,
і дзіўную меланхолію дома,
калі ён пусты, ад шуму астылы.

Люблю прастату, што чало схіліла,
бяседу спагады, што пакрыёму
перадаецца сэрцу другому,
якое з сумленнем загаварыла.

Люблю спакой пустэльных абшараў
і пах легенды, што тояць руіны,
дзе ткуць сендалі правідныя хмары...

Яшчэ люблю самоту сцяжыны,
дзе маладымі рукамі мары
трымаюць ахвяру сваю ўспаміны.

## БЕГЛЫ РАБ

### I

Ён, як Аякс,— кулак узняты смела,
і, дрыжучы, знікае ў гушчы хмурай
з магутнаю сваёй мускулатурай,
з бунтоўнай шавялюрай, учарнелы.

Нікчэмны раб! Яму адно карцела
не адчуваць сваёю цёмнай скурай
апёкаў бізуна з рукі панурай,
не чуць бы выклятага рытарнела.

Пасцель сабе ён сцеле з жаўталісця.
А ўранні птушкі просяць прахапіцца,
ўсё тыя ж, як на волі, як калісьці.

Непадалёку высачыў крыніцу —
укленчыў беглы раб, гатоў маліцца.
не можа з прыгаршчаў сваіх напіцца.

II

Ён есць, што яму пасылае воля,
і сіла ў пачуццях прабіцца хоча,
яна шматуе нягод патарочча,
як вецер снягі ў перастылым полі.

І ён знерухомлівае міжволі,
пачуўшы, як блізка сава рагоча...
Не гэтакі чорны каптур уночы
ягоны, як думкі, што плачуць болем...

Пачнецца хутка агонія злая,
здаецца, чуе пагоні дыханне,
бо след узяла сабачая зграя...

Ён чуе брэх... Ды трымае ваганне...
Пакуль ён не мёртвы, ў пустэльным краі
разгойдваецца яшчэ на ліяне.

1912

# Рэхіна Эладыё Бацi

(1878—1958)



---

## ПЛЯЖ

Вялікі і незвычайна маўклівы,
надзвычай самотны і сумны самы,
у светлай кунезе сонечнай ямы
апрануты ўвесь міражамі ў ліўні.

Адцэнні сепіі ў зелені ліній.
І чахлая флора нясмелай плямай
крывавіць пясок крывяністай гамай,
якую не сцерпіць позірк цярплівы.

Сярод жаўцізны зялёная хваля
кустоўя мангле аценьвае далі.
Каб ■ хвалі соннай панікліва сцерці,

ляціць пералётная чапля жалю,
што аблачыны жыцця паслалі,
над гэтай немай прасторай смерці.

1907

## ЛІВЕНЬ

З поўдня лівень, лівень, лівень,
З поўдня лівень, лівень, лівень,
ён ідзе — сцірае горы,
ён ідзе — глынае мора.

З поўдня лівень, лівень, лівень,
з поўдня лівень, лівень, лівень:
бухта — цёмнаю павеццю,
дзе растала ўсё на свеце.

З поўдня лівень, лівень, лівень,
з поўдня лівень, лівень, лівень
чорнай, чорнай мантыяй
несуцешна падае,
праз яе відаць нясмела
шхуна аграмадная,
як Шпіцберген белая.

## ВЯСКОВАЯ ЦАРКВА

Падступаюць болі і пакуты
ночы. Поўня свеціць цьмяна.
На яе спакойнасці рахмана
выступаюць змрочна, непачута
цэркаўкі абрысы. І вянчае
вежа замка зніклага зігзаг.
Вежа, як фурманка, што ў адчаі
на гару старую цягне жах.

# ГОРНЫ ДОЖДЖ

Зацягваецца далягляд — попел, свінец, жэмчуг.
Глыбы распаленыя адчыняюцца.
Лісціны блішчаць. Танцуюць буйныя кроплі,
а ад зямлі падымецца гэты пах —
натуральны, адзіны, вечны, касмічны;
пах жанчыны, магілы, пасцелі,
пацалунка і кроны, жыцця,
і ўсяго, і нічога...

# Аўгусцін Акоста

(1886—1978)



## ПАДВОДЫ ЎНОЧЫ

Валы нахіляюць нацёртыя шыі,
скрыпяць перасмягла падводы старыя...

Стварыўшы тэорыі доўгія, сонна
падводы дарогамі сунуцца соўма.

Адольваюць горы і рэчак падковы,
дзень будучы Кубы вязуць, трысняговы...

І цягнецца руху кірунак і водум
паўночнаамерыканскім заводам.

І як бы са скаргай ідуць да завода —
скрыпяць перасмягла старыя падводы...

І крохкі трыснёг неакрэсленай долі
зіхотліва круціцца ў месячным коле.

І цягнецца ўперад, і ў цемры ніцее
фантасмагарычная варта надзеі.

Стараецца ўпражка асноўная шчыра,
а песню тым часам пяе гуахіра...

У дэсіме меланхалічнай, крэольскай
клубок раскруціўся — і шалу прывольна:
«Да варот не выйшла ты,
калі я вярхом ляцеў,
лепей не будзі мой гнеў,
нораў у мяне круты...»

І вершы гучаць, і скрыпяць як заўсёды
пад грузам салодкім старыя падводы.
«І платанам кожны сад
можа сведчыць, бачыў сам
цень, што бег, як злодзей, там,
сэрца выскачыла з пят,
на табе жаніцца рад
сам — і ценю не аддам!»

Старыя валы і фурманкі старыя
шчырэюць штосілы ў апошнім надрыве...

І грэзнуць у ямах вялізныя колы...
Аблізваюць мызы валы невясёла...

Анафема — кожнае слова вазніцы...
Кляне ўсё на свеце, абы не спазніцца.

І цуг прыпыніўся, ідуць на падмогу
таму, хто астатнім даць мусіць дарогу.

Пад колы кладуць, як каменне, ў знямозе
лясіны, што ўкралі ў гаі пры дарозе.

Стараюцца марна ў патугах шалёных,
і глухне прастора ў салёных праклёнах...

Пакуль, гуахіра, ты лаешся люта,
валы спачываюць ад вечнай пакуты!

Ды ўрэшце дапалі да цвёрдага долу,
і едзе цяжкая падвода вясёла.

З суседняй даносіцца песня суладна,
каб лаянку смачную трохі загладзіць:
«Я пацалаваць цябе
аніколі не змагу.
Разгані маю тугу,
як маршчынку на ілбе».

І вершы гучаць, і скрыпяць як заўсёды
паныла, панура старыя падводы...
«Ты ідзеш на танцы, ды
не згадаеш пра мяне,
хоць я сохну маладым.
Я ўслаўляю як паэт
рыфмаю твой кожны след,
хай мой боль цябе кране».

Старыя валы і фурманкі старыя
шчырэюць штосілы ў апошнім надрыве...

Завод аб'яўляе рабочую змену
цягучым гудком неасіплай сірэны.

Як жоўтая важкая лямпа здзіўлення,
завод пазганяў фантастычныя цені

і выпусціў пары рыклівую сілу
у твар іранічным нябесным свяцілам.

Стварыўшы тэорыі доўгія, сонна
падводы дарогамі сунуцца соўма.

Адольваюць горы і рэчак падковы,
дзень будучы Кубы вязуць, трысняговы.

І цягнецца руху кірунак і водум
паўночнаамерыканскім заводам.

Са скаргай цяжкой набліжаюцца быццам,
з паклажай сваёй да завода,
нагружаныя крыўдай кубінцаў,
скрыпяць старыя падводы.

## МАЯ КАШУЛЯ

Гэта кашуля, што мама мая цыравала,
пахне, бялюткая, домам і сумам расстання.
Святасць яе ў маё сэрца запала трывала
і разам са мной растане...!

Заўтра, магчыма, буду я значыць нямала,
стану ўплывовай асобай без высакамер'я.
Ды сваё мінулае, дзе б яно ні блукала,
сумна паклічу, слязіну ўраніўшы, цяпер я.

Толькі мінулае суцешыць жаданым ладам!
Сонца маё ўжо за старым даляглядам,
грэбліва я гляджу на шану і на багацці...

Вытрываю і ў забыцці, і ў хвалебным гуле,
і нічога не апрану, апрача кашулі,
што мне цыравала маці...!

# Хасэ Мануэль Паведа

(1888—1926)



---

## КРЫК ПРОДКАЎ

З веку ў век тахона
паніку прыхоўвае,
барабан шалёны,
слова выбуховае;
 вырве стогн таката ў цішыні з размаху,
 млее педыкабра — ўдар упаў сурова,
 б'ецца ў ліхаманцы і крычыць ад жаху
 зраненае слова.
Слова ўсіх адразу,
дыятрыба змрочная,
даўнюю абразу
ўсім варочае.
 А дапала з часу і ляціць у часе;
 ад кулачча дзікага аж да рук фальшывых,
 рогат аж да ікаўкі, ўсмешка ўся змаглася,—
 гэтак гімнам лаянцы ўсіх разварушыла.
Крык зямлі далёкі, песня ценяў,
галава кругам, кругам танец,
шротам рассыпаецца, вар'яцее,
знак таемны «эх!», што нас дастане,
невядомы, даўні
па зямлі блукае, выйшаўшы з нябыту,
высахлы, самотны, марны і разбіты,

крык зямлі, паданняў,
дыятрыба змрочная
водгук болю даўні
ўсім варочае.

## СЛОВА ЎНОЧЫ

Двое дарожных ідуць па змрочнай мясціне.
Не відаць, ці ў шчасці, ці ў горы яны.
Мы не ведаем, хто ў іх цяпер на паміне,
ці да мора, ці ў горы ідуць адны.

Яны гавораць пяшчотна з сваёй самотай.
Куды іх памкнула жаданне зноў?
Мы не ведаем, пра што там гавораць употай,
толькі чуем гучанне, водгулле слоў.

Пахаджане, якімі куруе імгненне,
разумеюць часовую роўнасць памкнення
і не патрабуюць ніякіх зарук.

Спадарожнікі разам ідуць выпадкова,
і, здаецца, жахлівая іхняя мова —
гэта іхніх прыцішаных крокаў грук.

## САМОТА

Мне даспадобы халоднасць квартала,
шэрасць прадмесця і стрыманасць вулак,
той, што знайшла ты, жаданы прытулак,
дзе ты ў спагадзе спагадай растала.

Зрабіў бы я доўгім жыццё старое,
каб доўга трымалася асалода
у табе, бо ўся ты — сама Прырода,
у сабе, бо ўвесь я — чыстая мроя.

Жыць, паяднаўшыся плоццю з душою,
выпіць віна пачуцця і спакою
з чашы, якая нам добра вядома;

нікоіа не ведаць, а калі часам
спытаюцца, хто мы, тады ўсе разам
адкажам: — Не ведаем, што мы, хто мы.

## ЭПІТАФІЯ

На урне, што пакоіць ціхі прах мой,
слоў пышных не пішыце ў сумнай фразе,
каб горды дух ліслівасцю абразіць,
на урне, што пакоіць ціхі прах мой.

Маўкліўцы, слепакі, глухая паства,
рукой пыхлівай не выводзьце з сілай
нікчэмны надпіс на пліце астылай,
маўкліўцы, слепакі, глухая паства.

Заўсёды самалюбству славы мала.
Хачу, каб пра жыццё маё казала
маё імя, а не пустыя словы.

Высакамер'ю мала п'едэстала,
хачу, каб з прахам мой алтар трымала
маё імя, п не пустыя словы.

# Хасэ Сакарыяс Талет

(нар. 1893)



---

## ЧЫГУНАЧНАЯ ПЕСНЯ

Мы ідзём па жыцці, быццам дзве паралелі
той чыгункі, дзе нашы пачуцці сталелі.

Нас таксама жыццё добра паліравала,
нас пад колы шпурляла цяжкая навала.

Па прамой, па крывой ляжа лінія згоды,
паміж намі ўсё тая ж прастора заўсёды,

што не дасць сутыкнуцца, і ўправа, і ўлева
нас пакора схіляе, як галіны залева.

Лініі між сабою жалезна залежаць,
бо адна без другой — што кавалак жалеза.

І здаецца здалёку, сышліся шчасліва,—
гэта толькі ілюзія перспектывы.

О, калі б на пуці нам знайсці адхіленне,
каб крануцца адно аднаго на імгненне!

Хоць далёкія ў нас супадаюць кірункі,
мы як дзве паралелі акружное чыгункі.

## МОЙ ПАНЦЫР

Быў я настолькі добры, што дурнаватым здаваўся,
бо мой кавальскі горан усё паглынуць стараўся.
Каб ён не пагас, ягонае полымя
я ідэямі чужымі раз'ятрываў,
што нараджалі іскры мрояў кволыя
і думак дым густаваты.
Іскры бліжэлі адно імгненне —
лаві іх, пакуль не позна!
А дым густы на здзіўленне
сажай забіў дымаход майго мозгу.
Ды лівень жыцця праліўся з нябёс
і сажу ў грудзі мае перанёс;
сажа і лівень ператварыліся ў іл пуставаты,
і стаў я не настолькі дурным, каб добрым здавацца,

## НАМАГАННЕ

Штораніцы будзіць будзільнік сонны.
І я пазіраю на свет рахмана.
Пакуль праясняю сябе старанна,
знянацку нахопіцца час паўдзённы.
І я ныраю на дно акіяна
штодзённых спраў — варочаю тоны
пустой мітусні, як прыліў манатонны,
і з сонцам гасне агонь мой рана.
І меланхолія вечара потым.
Выходзяць з істоты стомленай потам
энергіі рэшткі, як промні ранняў.
Прыходзіць, зрэшты, і ноч, як знямога,
замкнуўшы цыкл маіх намаганняў
заўсёды з вынікам тым жа: нічога.

# Рэхіна Пэдроса

(нар. 1896)



## БРАТЭРСКАЕ ДРЭВА

Дрэва, скручанае жэстам тужлівага болю,
чый выраз — сімвал дарэмных жаданняў лёсу,
ты перад ветрам хіліш сваё панылае голле
ў трагічнай парабале нянавісці да нябёсаў.

Расцвітаеш спадчынным цветам, як толькі карэнне
дападзе да карыснага соку, сасмягшы люта;
тады здаецца, бяжыш з гэтай зямлі ва ўтрапенні
і праклінаеш жыццё ў вечным крыку пакуты.

Ты, як жыццё несуцешнае ад горкай самоты,
чыя скручанасць болей падобна да крыку ўчора
у змрочнай начы, да немага крыку істоты
якую б'е ліхаманка ў бязмежнай прасторы.

Абыякавае да сонца, да змроку, да рання,
ты ўзвышаешся, хваравітае, гордагалова
неймаверным, бунтоўным цягліц намаганнем
тваіх галін сярод пустэльні галоднай.

Не даеш нічога: ні пладоў, ані ахалоды
з высакамернай пагардай да вышыні заўсёды,
ты — як гора, высаджанае на дарозе.

Ды ў алімпійскім жэсце тваёй прыроды — дрэва —
лёс душы маёй, знявечанай жэстам гневу,
суцяшае тваю тугу ў зразумелай трывозе.

## САБАКА МОЙ,
## ВЕРНЫ САБАКА

Сабака мой, верны служака,
каўтаю горкага болю глыток
падумкі пра чорны жах, што аднойчы ўкусіць
тваё металічнае цела, oh, may watch dog [1]!
Ты доўга і верна служыў мне;
тваё ізахроннае, манатоннае жыццё
было аднастайнае,
ты ніколі мне не маніў,
не быў гультаяваты,
ніколі не скардзіліся мне, што некага ты ўкусіў;
ты вартаваў мае дні, гадзіны, хвіліны,
і штораніцы, дакладна, будзіў ты мяне,
каб перашкодзіць голаду
мяне ў пасцелі забіць.

Я думаю пра заўтрашні дзень, калі марна
будзеш будзіць мяне; я, пэўна, чуць буду
вясёлае рэха «дзінь-дзінь» твайго брэху,
ды не змагу адказаць табе вясёлавока:
хоць і прысутнічаць буду,
але ўжо буду дужа далёка...

Я ніколі стужку твайго языка не накручу болей,
не ўбачу ўжо, як будзеш ты красці,
ашукваючы бязбожна, кавалкі дзён у часе,

---

[1] О, мой вартавы сабака *(англ.)*.

хапаючы іх сваімі зубамі гадзін;
да самай вечнасці
мяне будзе гнаць гаркотнае «цік-так» твайго выцця
улюцеўшы ад маўчання маёй істоты,
укусіш лёс мой хаця,
ад скрухі захварэеш да забыцця
і, зрэшты, як я, заснеш ты.

Ды сон твой пройдзе,
ты аднойчы прачнешся,
назаўсёды забыўшыся на мае згрызоты,
на мой смутак
і нават на кароткія радасці,
што з іклаў тваіх вырываў я,
і як жанчына лёгкадаступная,
іншых будзеш будзіць вясёлым брэхам абавязкова,
а я спаць буду яшчэ мацней, чым раней,
oh, may watch dog ',
у агромністай цёмнай ночы бясконцасці.

## FIFE O'CLOCK TEA [1]

Іду я з бруднымі рукамі ў машынным масле...
Машыны прыгожыя не спыняюцца, калі іх клічу;
і я іду па вуліцах, на вітанні шчодры,
ды людзі не заўважаюць,
праходзяць з вачыма пагаслымі,
бо на вялікапышным свяце ў шыкоўным горадзе
я — з бруднымі рукамі ў машынным масле.
Адно краявід і прысмерак абдымаюць мяне сардэчна

---

[1] Чай а пятай гадзіне *(англ.)*.

ды стары брук ружанец крокаў маіх
пералічвае ясна.
Але вялікія вітрыны шыкоўныя
перада мной дзверы свае зачыняюць,
і ліфт багатых не ўзносіць мяне на тэрасы,
дзе жыццё пяе і смяецца;
бо ў час ап'янення ад водару залатога чаю,
у мяне, хто свет гэты ўзбагачае,
брудныя рукі ў машынным масле.

# Хуан Марынельё

(1898—1977)



---

## ВЕЧАР У ГАРАХ

*Марыяну Брулю*

У адзіноце гэтай, у гэтым спакоі
як сустракаюцца душа з душою!
Як выказваецца няўлоўнае
без нуднай рыторыкі,
без хворага пустаслоўя!
Пераплавіліся,
таямнічасцю пяшчоты падсвечаныя,
золата душы
з золатам вечара!
Прадвесце таямніцы ў паветры. Мы
сам-насам з краявідам, з намі згубіла
сувязь людская трывога,
і нам здаецца, што ўсё спасцігаем,
уступаючы ў Нічога.
(Лаянка сонца глухне
ў пяшчоце
поўнінага срэбра,
што скача ў лістоце
міндальных дрэваў.)
У гэтай адзіноце начы, ў гэтым спакоі
як сустракаюцца душа з душою!

## ЛЮТЫ

На гордую строму гары, што высока ўзнята,
срэбным ліўнем ціха падае снегу спагада,
а ўлюцеласць сваю абрушыць абрэга рады
на смелыя сосны немага лесу зацята.

А між тым светлы шум звычайна-зямнога свята
пануе ў салонах з шалёнасцю вадаспада,
а на збеглых вуліцах сумная сэрэнада
гучыць пратэстам кахання, што зведала страту.

Праходзяць і арлекіны, і сумныя маскі,
няшчыра гараць пагляды, і ўсмешкі, і ласкі,
и за імі натоўп карнавала — як вечны госць.

А я, самотны, думаю ў кунезе алькова
пра тугу, што няшчоту крадзе не выпадкова,
ў чыіх вачах нешта ад неўміручасці ёсць.

## ВЕЧАР

*Конраду Масагеру*

Блакіт вечара ў горах.
Блакіт, блакіт вакол.

Поўную святла задуменнага
галаву ўгору
падымае вол.

Каб дрэвы ўцякалі ў ноч уброд,
сцяжынкі ўсе выплылі.

Чарот
запальвае свае вымпелы,
і схіляе свае хахалкі,
па-чалавечы шэпчучы кожны гук,
рамантычны бамбук.

Ва ўсім ёсць
вечара акравак барвовы.

А ў грудзях баляць
разбітыя аковы
нечага, што з'ехаць далёка
імкнецца, як змора.

Блакіт паміж чаратоў.
Блакіт мора.

## ДОМ

Высвечаны табою,
ён дрыжыць, нібы карабель,
што адплывае ў заўтра з учора,
абрэзаўшы канаты прасторы,
за плячыма воды, не парушаныя раней усур'ёз.
І пакуль ветразі рве блакітны вецер,
занясі мяне ў свой карабельны спіс,
Капітан Лёс.

# Рубэн Марцінес Вілена

(1899—1934)



## *З гарадской сімфоніі*

### 2. ПАЎДЗЁННАЕ АНДАНТЭ

І поліфанія вялікая замірае,
з якой плялася размаітая песня рання,
і вольная ціша паўдня нібы паўтарае
перапады стомленага людскога дыхання.

Зноў урачыстасць меланхолію дакарае.
Сталіца купаецца ў зыркім паўдзённым ззянні.
Ажно здаецца, гул вулея, што не мае краю,
у плоднай цішы горада плыве без атхлання.

Развяваецца на пляскатых дахах бялізна,
цені ад громаадводаў і каміноў вялізных
прымаюць прапорцыі смешныя, бы ў кашмарах.

Сонца цэдзіць з дрэў фантастычныя накіды сокаў,
чэрціць сілуэты балконаў на тратуарах,
што спяць над прахожымі сном глыбокім высока.

## 3. ВЕЧАРОВАЕ АЛЕГРА

Горада здаволенага радаснае свята!
Заходы гарадскія — прывідныя палацы.
Жанчын прыгожых на вуліцах тлумных багата —
адны спяшаць купіць, а іншыя атрымаць плату...

І перламутр змяркання цьмянее ружавата,
над морам адценні залоцяцца, серабрацца,
а ноч надыходзіць і ўсё забірае за краты,
цяпер галоднай цемры хопіць да рання працы.

(Званкі трамваяў, сінематографаў рухавасць,
вішчанне піянолаў, фанографаў гнюсавасць.)
Ноч пераможна ўсё каптуром акрывае,

і водбліск апошні ізрынутага свяціла
на карнізах, упарты, прыкрывае штосілы
ўцёкі вечара, што разам з святлом памірае.

---

# ПЕСНЯ З ПАСМЯРОТНАГА САЙНЕТЭ[1]

Памру празаічна, пацверджу хваробы сілу
(трасцы, язвы, катара — ці ўсё пералічыш тут?!)
і, як добры труп, апушчуся ў магілу,
спавіты ў саван святы спачуванняў, пакут.

І хоць смерць —
                    гэта нешта што прыходзіць штодзённа,
ды нябожчык распальвае цікаўнасці жар;
дом ад людзей загудзе вулеем манатонна,
і ўсе суседзі цярпліва мой вывучаць твар.

Потым пачнецца недрамание ля дамавіны.
Перад раднёй, па традыцыі, звялай ад слёз,
незнаёмцы казаць няпраўду будуць павінны,
дэкламаваць пошлыя фразы пра лёс.

Манашка нейкая ў туманна-сонным парыве,
гледзячы ў ногі, прамямліць малітвы тугу,
можа, стоячы ля мяне, самыя старыя
спахмурнеюць, вылічваючы сваю чаргу.

З вясёлым глупствам не будзе ніякага зладу,
прагучыць распусны, вытанчаны анекдот,
а апетытныя кубачкі шакаладу
цішыць паўзаю смачнай пачнуць балбатлівы рот.

Сябры, што яшчэ не будуць у ліку памершых,
стануць каля мяне, дзе ў тлен пераходзіць плён,
пацвердзіць сцэну, ўбачаную ў гэтых вершах,
і ціха скажуць сабе: «Усё прадбачыў ён!»

---

[1] Сайнетэ — іспанская музычная камедыя.

І ціснуць на зборышча пачне ўжо на світанні
ідэя «ніколі», ўрачыстая, з нематы,
пасля суцяшэнне прыйдзе ў працяг існавання...
І прыйдзе раніца... ды толькі не прыйдзеш ты!

А там, дзе шчасце тваё пачне віною карацца,
шчасце,
    што хіба можна шчасцем назваць ледзь-ледзь,
мае імя і прозвішча ў жалобнай рамцы
сваёй чарнатою прымусяць цябе спалатнець,

Спытаюцца, што з табой, ты адкажаш, нічога,
і пойдзеш у спальню, каб выплакацца ў журбе,
і там падушцы твая перадасца трывога,
і ў гэтую ноч муж не зможа пацалаваць цябе!

# Нікалас Гільен

(нар. 1902)



## САВЕЦКІ САЮЗ

Ніколі не бачыў я
савецкага сіндыката ў маёй айчыне.
Ні банка, ні нават грошавай крамы.
Канторы ад цэнтра ніводнай.
Лініі ні паветранае, ні воднай.
Ніводнага цягніка.
Як ні старайся, тут не знайсці
плантацыі бананавай,
праходзячы ля якой, прачытаў бы:
«Маслаў энд Компані,
Платаны оптам. Кантора на Кубе:
вуліца Масэо, што ў самым цэнтры».
Ніводнага паведамлення такога:
«Масква, 15 лістапада (ЮПІ).
Учора цэны на сыравіну не падалі».
Адтуль не было ніякай
інсінуацыі самай тонкай, самай мяккай,
ні ўмяшання снегу таго знакамітага
у вясну знакамітую нашу.

Я цягнікамі паездзіў даволі
(зноў кажу пра СССР)
і не бачыў нікалі

Для белых — Для чорных.
Ні ў аўтобусе,
ні ў кавярні,
Для белых — Для чорных.
Ні ў бары,
ні ў рэстаране,
Для белых — Для чорных.
Ні ў атэлі,
ні ў самалёце.
Для белых — Для Чорных.
Ні ў каханні,
ні ў гадаванні,
Для белых — Для Чорных.
Ніводнага не было чалавека,
што, адтуль прыехаўшы,
перш чым падаць руку,
вачыма дапытваў бы хмура:
смуглявая твая ці белая скура?

Ніколі не бачыў я ў нашым моры
піратаў з Масквы.
(Пасведчы Карыбская апраметная.)
Ніколі ў маіх бухтах светлых
не бачыў я суперпільнага вока-радара,
што ўдзень і ўночы
за кожнай думкай маёю сочыць.
А ні блакады.
А ні дэсанту марскога.
Ні катэраў, што родзяць шпіёнаў і правакатараў.
Савецкія караблі? Дык вельмі добра.
Гэта ж танкеры лепей зірні,
гэта ж сейнеры, так, сеньёры,
гэта зусім не тыя, што вывозяць цукар і каву
разам з букетам надзей, што расцвіў ласкава.
Я, паэт, кажу:

ніколі да нас адтуль не прыйшло нічога
без дарагога і блізкага
ласкавага смаку хлеба сяброўства святога,
без шчодрага смаку голасу таварыскага.
Савецкі Саюз, калі з пахавальнай Поўначы
спусціўся на нашу зямлю
вецер шурпаты, жудасцю сэрцы поўнячы,
калі кат зацята
зацягнуў нам яшчэ адну пятлю,
калі сваю працу пачаў інквізітар
спаконна спакойны,
нам палячы пяты без жалю,
каб мы прастагналі: «Вашынгтон, згода,
нас да сябе ўздымай»;
каб удосыць мы нанямеліся,
а ўрэшце сказалі тое, чаго гаварыць не меліся,—
узнік твой голас падтрымкі,
вялікі голас новага часу
фабрык і калгасаў,
школ і майстэрняў
і з намі разам выгукнуў: «Не!»
І мы пакрочылі разам абодва паддадзенымі свабоды
супроць агульнага ворага,
якога мы пераможам разам.
Дык трымай жа, Савецкі Саюз, надзеі Айчына,
я пакідаю табе,
трымай маё сэрца смуглявае,
насцеж адчыненае,
ужо ведаем мы ад цябе,
дзе шлях правільны ў барацьбе,
пасля гэтулькіх штормаў ужо ведаем, добра ведаем
ад цябе, дзе гавань.

## *Соны*

### 1

### НЕГР-ГУБАШЛЁП

Чаго ты халяруеш,
як завуць цябе, негр-губашлёп,
калі ў цябе вусны святыя,
негр-губашлёп?

Лацвей табе, губашлёпу,
маеш ты ўсё;
шчодры лёс жабраваць дазволіў,
каб меў ты ўсё.

Яшчэ ты крыўду маеш,
негр-губашлёп;
з мукой не маеш мукі,
негр-губашлёп;
пінжак бялюткі носіш,
негр-губашлёп
камашы двух калёраў,
негр-губашлёп...

Усё, што хочаш, маеш,
негр-губашлёп.
Ты голы, галадаеш?
Які паклёп!

3

## КАЛІ Б ТЫ ВЕДАЛА...

Ай, негра [1],
ноччу ўчарашняй бачыў,
як ты прайшла,
ды выдаць сябе не схацеў.
І з ім, як са мной,
шчырай будзеш маной.
Калі ў мяне грошай не стала,
дала ты на гулі драла.
Сонгара кансонгара
сонга бе;
сонгара кансонгара
дэ мамей;
сонгара, негра
добра скача,
сонгара адна,
сонгара ўтраіх.
Ае,
хадзем зірнём,
ае,
пойдзем глянем,
хадземце,
сонгара кансонгара,
сонгара кансонгара
дэ мамей.

---

[1] Н е г р а *(ісп.)* — негрыцянка.

## 5

# ТРЭБА МЕЦЬ СІЛУ ВОЛІ

Слухай, навошта словы,
наскрозь ты бачыш мяне:
калі я журуся вачыма —
гол як сакол,
калі я смяюся вачыма —
сам ды душа — ні шыша!

Электрычны свой прас закладзі,
каб забраць мой касцюм;
грошы знайдзі,
хоць украдзі,
свечак купі пакецік,
каб ноччу ўбачыць мяне.

Мець трэба сілу волі,
бо гэтае гора не вечнае —
знікае разам з жыццём.

Шукай удачу, негра, без плачу,
ідзі туды
без плачу, негра, шукай удачу,
ідзі сюды,
негра, ідзі без нуды.
Мець трэба сілу волі!

8

# ТЫ НЕ ВЕДАЕШ СЛЭНГУ

Словы ў цябе ад зубоў адляталі,
Віта Мануэ,
[redacted] цяпер ты сказаць не можаш
нават эс.

Амерыканка цябе шукае,
[redacted] ты гаворыш нагамі;
твой інгле быў слэнгам тры ўан,
тры ўан і ўан ту тры.

Віта Мануэ, ты забыўся інгле,
ты не ведаеш слэнгу,
ты не ведаеш слэнгу.

Віта Мануэ,
ты мог бы зноў закахацца, але
ты не ведаеш слэнгу,
ты забыўся інгле.

# Эухен'ё Фларыт

(нар. 1903)



## МАЛЕННЕ

Сонца-скульптар,
ты, што робіш зоркі
з промняў
на сушы і на моры;
ты, творца
прамяністых дзідаў
над аблокамі; ты,
найлепшы скульптар,
вылепі мне жанчыну
сваімі разцамі,
хай яна будзе са святла.

## СКРЫПКА

Каб я ўмеў іграць на скрыпцы...
Ёю можна перадаць
якое хочаш пачуццё.

Піяніна — не. Піяніна намі валодае.
Кажа: «У мяне вось клавіша». І мусіш ёю іграць.
Апрача, яно нагадвае чорны матылёк,

склеп магілкавы:
ці не бачыш паліцу пад гукі
нумараваныя?

Лепей, кажу, іграць на скрыпцы...

## ЛЯЛЬКА

На вуснах застыла ўсмешка.
Мёртвыя промні сонца спляліся чубчыкам.
Рукі без руху і пачуцця
калісь пачалі абдымкі: не спраўдзяцца.

«Ахвота пляснуць яе,
мо хоць заплача».

## ПАДАРОЖЖА

За акном майго вагона
круціцца краявід, як пласцінка,—
сярэдзіна ўва мне.

Адзін, два, тры, чатыры ды яшчэ сто
тэлеграфных слупаў аддзяляюць мяне, поле.

Вітаю кожны дом-карабель. Я застаюся.

Правады гірляндай упрыгожыліся птушкамі.

Вітаю кожнае дрэва, што імчыцца прэч.

Я застаюся.

## ЗАСУШАНАЙ ДУМЦЫ

Ты страціла звычайнасць і стала проста іншай.
Без колераў жывых і вільгаці жыццёвай,
без свежасці былой, запахла успамінам.
А думка — з пачуццём. А ты — хіба што думка.

Выслабанілася нарэшце, з бегам часу,
і форму набыла — уласную, навекі.

І здзіўленая з твару, як быццам пасмяротна,
за кратамі паперы, ў труне, за пераплётам,
партрэтам станеш слушным, маёю паланянкай!

## ПОДЫХ НАВАЛЬНІЦЫ

Аднойчы з горнай вяршыні —
я з самотай туды ўзняўся —
нябесны звон мой збіраўся
падаць на лог канюшынны.
У хмары колер мышыны,
як вайна, з агнём у сэрцы,
і рукамі іншаверца
голле хапала, лістоту,
а вятрыска краўся ўпотай,
па гарах блукаў, азерцах.

## СТАТУЯ

Вір часу, мабыць,
не набліжае смерць.
Гэтак стаіш на беразе сонца,
што ўцякае матылькамі святла.

Ты нарадзілася мармурова-белай
дзеля цнатлівасці навек,
таму з-пад духмяных галінак
глядзіш невідушчым позіркам.

І не адчуеш, што мой дзень пагас,
хіба па дотыку коўзкага ценю,
па сцюжы бессаромнай, што прыліпне
да тваіх голых, вільготных каленяў.

Аб мармур Маўклівай усмешкі
пчала паламала крылы,—
душа яе блукае ў прасторы
успамінам мядовых вуснаў.

Ужо тваё цела даведалася:
паветра — марнае, раса — сарамлівая,
дарэмна мора выплюхвае на пясок
рэха шоргату ўсіх ракавінак.

На золку зорка цалуе ў твар
без успамінаў ані слязінкі,
цалуе мармуру ў цвёрдую роўнядзь,
што не абнадзейвае нават моўчкі.

А лісце ліецца на твае плечы
з пяшчотным пошчакам-пацалункам,
і марна тоіш ты светлай ноччу
тугу і мару пра бессмяротнасць.

# АКВАРЫУМ

Недалёка ад мора — ад нас далёка —
альбатрос паднявольны,
у вапне і мёртвым пяску, дрэмле,
і сніць палёт над вольнай хваляй,
і чуе час свабоды крыламі.

Далёка — і гэтак блізка — простая дарога,
сяліба з кілямі ўгору і пругкія ветразі.
І ўсмешка, яна ж дзень і ноч
да турмы шкляной далятае песняй.

А тут, бы ёй шчасце прываліла
або дробная ўдача,
як міраж пустэльны,
у гушчы бядотнай
вады жыцця,— самотная рыбка
ля кінутай ракавінкі, якая ўжо і не марыць.

Усё святло свету згубіла;
ла́сіцы мора для іншых, для вольных,
яны паспыталі празрысты пацалунак ветру.

Глыбокай ноччу самота здушана ўздыхае
па адкрытым моры і бляску успененай хвалі
далёка і блізка ад дарогі
з вапны і мёртвага пяску.

## *З цыкла «Чатыры песні»*

* * *

Пад нагамі — зямля: насенне ды косці.
Лямант стагоддзяў у разбітым чэрапе.
Лямант людзей у раздушаным зерні.
Там — учора, гронкі спелай смерці,
і заўтра,— абяцанка карэнняў.
А тут, на зямлі,—
сёння, рукі, якія месяць гразь
і шукаюць зоркі.

## ЗНАК

Над рогатам мора,
над весялосцю каляровай,
над страфой блакітна-зялёнай
і над белапеністай стужкай следу;
над жоўтым мроівам паўдзённага сонца,
над ноччу, па-над шэрым густахмар'ем,
заўсёды чайка,—
высока і нізка, ад аблачыны да хвалі
адкрытымі крыламі, ласкавахуткая чайка:
душа, зграбны знак душы
над гаркавым рогатам мора.

## *З цыкла «Учарашняе дзіця»*

### 4. САД

Квітнеў між курганом і рачулкай,
і панавалі ў ім хрызантэмы і фіялкі.
Невялікі ды ўсмешлівы,
юны сад наўзбоч шляху.

І зімовай сонечнай раніцай
да яго дабіраўся я па сцежцы,—
яе хавалі таполі
ад падталай вады;
улетку, пагодлівым днём,
і ішоў на гук пастуховай жалейкі
або на чырвань маку па пшаніцы.

Заўсёды сад сустракаў з душою —
кветкамі палявых бярозак.

Аднойчы прыйшла вялікая паводка,
бліскавіцы й перуны сышлі з нябёсаў,
і мы знайшлі сад пад зямлёю,
без усмешкі,
і загінуў водар, абарвалася песня...
Калі б сёння, як тады, змог,
я б узняў кожны валун, павярнуў
воды да іх натуральнага рэчышча,
знайшоў бы пад зямлёю ўсе кветкі ды лісце,
забітае новымі перунамі з нябёсаў,
якія, як калісь навальніца,
пахавалі сад,
юны сад наўзбоч шляху.

## 7. ХЛАПЧУК НА ГАРЫ

Хлапчук забіраўся на гару,
дзе гняздуюцца арлы,
прысядаў на вяршыню
і прапускаў над вачыма
паветраную вату аблокаў.
Празрысты вятрыска калмаціў
валасы; водар
размарынавых кветак
упрыгожваў кашулю;
слых поўніўся
званочкамі важакоў, бляяннем
авечым ды брэхам
пастуховага сабакі.

Хлапчук пакідаў гару,
дзе гняздуюцца арлы,
прыносіў дахаты
беласць аблокаў
вандроўных, каб гуляць
у ціхамірным сне,
і тонкае паветра,
і блакітны водар
у грудзях, спеў
званочкаў, бляянне
авечае ды вясёлы брэх
пастуховага сабакі.

І калі хлапчук пакідаў гару,
дзе гняздуюцца арлы,
уся высакагорная вясна
ішла з ім дахаты.

---

## МАЦІ

Пра цябе падумаць,— што заснуць
пад асеннім небам вечаровым,
зноў паплакаць, моўчкі памянуць
сумнаю усмешкаю жалобы.

Шчэ падумаць — прыгадаць гняздо
у азартным мроіве палёту,
(толькі сцішыць боль тваё святло,
зорка нетаропкая самоты),

бачыць: адвячорак мой пагас,
сонца, мо апошняе, згарае,
чайка па-над морам хмарным марыць,

я ж нібы замёр, і змоўкнуў час.
«Мама», вымаўляю і нямею,—
без адказу нішчыцца надзея.

## Эміліа Бальягас

(1908—1954)



---

### КАЗКА ПЕРО

Нарэшце,
І я абуў скараходы —
Боты, якім падуладны дарогі.
Пад лівнем песень іду,
Збіраю птушыныя галасы,
Вяршыні бяру — і не знаю знямогі.

Я кубак разбіў на друзкі,
З якога трагедыі горыч
Піў доўга.
А зараз усцяж дарог
Я сею пшаніцу — на хлеб
І слухаю песні пялёсткаў,
Незразумелыя ўчора...

Па радасных венах маіх
Рэкі сонца цякуць,
І я купаюся ў жыццесцвярджальных
Перамовах высокіх званоў.

Раз, два тры...
Крокам адным пераскокваю ў раніцу...

Нарэшце!
Нібы той кот,
Што ў дзяцінстве маім муркатаў,—
I я скараходы абуў —
Боты, якім падуладны дарогі.

## МОЙ ВЕРШ

Мой верш кароткі і праўдзівы...
Хасэ Марці

Мой верш увысь мяне кліча —
Махае крылом бялюткім;
Мой верш рукамі дзіцяці
Кліча і кліча мяне.

(Ён хоча, каб зноў я вярнуўся
Туды, дзе жыве дзяцінства).
Зялёным прыбоем лісця
Мой верш гукае мяне.

З блакітнага ўсплёску хвалі,
З пясчаных узораў і пены
Вясёлыя тчэ хусціны мой верш,
Каб мяне паклікаць.

I паміж крыл высокіх
I рук трапяткіх дзіцячых
Мой верш — і юны, і вечны —
Зноў хоча мяне памчаць
На калясніцы радасці.

## ВЕЧАРАМ

Куды ты, Зара-зараніца,
Ідзеш у гуллівым сутонні,
Стан брызам вясёлым хмяліцца,
І шлейфы — музыкай сонца?

Куды ты, Зара-зараніца?

— На свята іду, якога
Няма, але ў мроях іскрыцца...

І я з табой, Зараніца!

## ЗЕРНЕ

*Габрыэле Містраль*

Гуляючы ў хованкі, зерне
Стаілася ціхенька ў глебе.
(На самым донцы зямлі
Трапеча нябачная зорка).

Як боязна і маркотна
У цемры яму сядзець!
(Дзеці яго шукаюць,
А зернетка б'ецца ў глыбінях).

Ды клічуць яго на волю
Сонца і зыкі вясны;
І зернетка палахліва выглядвае, каб аднойчы
Выкінуць два зялёныя, два трапяткія крылы.

## ПАЭМА ЛІТАРЫ «Л»

Буль-буль — ласкава булькоча,
Ляціць па спіралі «л».
Крылцамі лёгка люляе
Пальму, хвалю і пляж...

Льецца ла-лё-лі-ла — голас
Далёкіх і блізкіх зямель:
Гуслі... Жалейка... Лютня...

Крылцамі лёгка люляе —
Вольная і гуллівая
Слаўная літара «л»!

## НАСАЛОДА

Насалоду я ўсё яшчэ маю
Невыказную — дзіцем быць,
Сонца бег адчуваць у венах,
Залатую пену святла.
Яшчэ рукі мае спяваюць,
І я вечару кідаю кліч захаплення.

Я здзіўляюся па-дзіцячы
Кожнай новай сустрэчы з пялёсткам
І хаваю на вуснах чаканне
Пацалункаў нязнаных будучых...

І ўсё яшчэ, голас жалейкі пачуўшы,
Я пасу каля ног сваіх мрояў статкі.

# Фелікс Піта Радрыгес

(нар. 1909)



---

## АКВАРЫУМ

Полымя, палоненае вадою,
ці цэлулоідная кветка веры?
Дрэва ўпрыгожвае мора жудою,
падводныя перасекшы намеры.

Блакітныя прыгадаўшы прасторы,
яна сціскае луску — і ў імгненне
кідаецца на бераг шкляны ў горы.
Трывала трымае яе здзіўленне.

Скарыць ледзяны далягляд дарэчы
у сірэнах, ад водарасцяў мутны.
Ды ява нікчэмная супярэчыць —
як жыць без пяску ёй у вечным смутку?!

Агонь у сярэдзіне б'е няспынна
Атлантыку акругла-шкляную,
ірвучыся ў каралавую краіну,
што толькі ў рыбіных снах існуе.

## САМОТНАЯ РУКА Ў ТРАВЕ

У траве, рука самоты,
камянець, як змоўклы востраў,
навучылася ў каго ты?
І сканаў павук, а вокал
пяць лагартаў, што пяць катаў.
Ну, няўжо мая рука так
ссірацела без пяшчоты?

Кроў мая далёка дужа —
цень, што быў рукой жывою,
нікне і рука таксама
можа быць чужой рукою.

О непрыяцель сардэчны!
Ці ў цябе хапіла веры
у глухой сцяне самоты
адшукаць глухія дзверы?

Бо мая — амаль чужая —
у траве рука ляжала.

## ВІНТОЎКА № 5767

Гэта хроніка Фелікса Фаўсціна Ферана
і картка ягонай вінтоўкі мілісіяна Радзімы.
Фелікс Фаўсціна Феран
у сцюдзёную ноч 19 студзеня
побач з акопамі рэвалюцыі
у нейкім кутку Кубы

прачытаў мне кароткую
і магутную паэму
пра вінтоўку сваю № 5767.

Я сцвярджаю,
што гэта самая яскравая, самая глыбокая,
самая мілагучная і ад маланак зіхотная
з усіх паэм Рэвалюцыі!

Ён прачытаў яе сваім цяжкім, палкім
голасам кубінскага негра,
з вялікай і чыстай усмешкай кубінскага негра,
і гэта краіна ўся прамаўляла
простымі, як кветкі са сталі, словамі
мілісіяна № 1061.

Я забыўся першакрыніцу, пачатковыя словы.
Я чую голас сіплы, бачу руку,
што сціскае з пяшчотаю непаўторнага дыямента
рулю сваёй вінтоўкі.
Я ўтрапёна слухаю:
«Антоніо — ствол,
Вівіяна — ствольная накладка,
Карука — рукаятка затвора,
Філіберта — магазін,
Ірэнэ — надрульнік,
Люсія — спускавы кручок,
Фібіян — засцерагальнік,
а прыклад — гэта я».

У кожнай частцы вінтоўкі — па сыну,
у кожнай частцы — кветка ягонай крыві,
аблічча каханае, якое ён бароніць з лютасцю.
За іх, за іх!

За ўсіх! Для ўсіх тых, чые імёны
знаходзяцца
ў кожнай частцы вінтоўкі мілісіяна,
сіплы голас
мілісіяна Фелікса Фаўсціна Ферана,
кубінскага негра,
будаўніка Айчыны і славы сваёй,
у сцюдзёную незабыўную ноч 19 студзеня
побач з акопамі Рэвалюцыі,
дзе чытаў я ім вершы з гэтай кнігі,
голас адкрыў мне сэрца паэзіі.

# Анхель Аўх'ер

(нар. 1910)



## I

Спыты на моры і на вятрах шыўкамі хваль,
прышпілены да яснага сонца,—
твой профіль, мой востраў,
твае абрысы ў вадзе,
што малюеш сваім сугучным берагам,—
павернуты да святла і да пены,
да шумнага вільготнага свету,
дзе зямля і дрэвы межы свае губляюць,
дзе колер блакітны набывае на картах
свае правы,
і геаграфія растае ў солі.

## II

Сум бяссоння па сонцы тваім і па хвалі:
самотная выспа — гэта сонца і хваля,
што, змяшаўшыся, апяразваюць і лашчаць
тваю мулацкую скуру берага,
жаноцкую з потыхам тытуню,
і скуру пляжа
з цукровым пяском, цёплую і дрыготкую.

## V

Наша зямля — адноўленая прысутнасць —
вольная ўжо, ў эскорце хваль,
уладарка мора свайго, гаспадыня ветру,
ідзеш верным курсам, твае ветразі
водныя шляхі хвалююць, стамляючы
далягляды і пену;
твой світальны флот рыбалоўны,
што ў круг архіпелага ўваходзіць
і недзе там за дугой сонечнай
закідае сеткі свае,
каб сабраць зіхатлівы
глыбакаводны ўраджай
і высыпаць яго ў шырокае рэчышча народа,
у асмялелы і натуральны прыбой
ягоных сурвэтак.

## БЯССОННІЦА

У глыбокай начы
гадзіннік і я не спалі,
парушаючы несвядома
ўсеагульны шум цішы.

Гадзіннік ту́жыў сетку-ўлоўнік
разрозненых атамаў,
але секунды знікалі
праз гулкія шчыліны,—
рэтраспектыўнае прасоўванне ўперад
праз хуткую нетаропкасць часу.

Як дрыготкія рукі
да праўды цягнуцца,
так і я расстаўляў свае думкі,
аднак мой роздум прасочваўся непазбежна
праз шчыліны сумнення.

З тых часін я да гадзіннікаў адчуваю
нешта падобнае да братэрскай ласкі:
гэта братэрства ў няшчасці.

Таму што нашыя хваляванні мізэрнелі
ў агромністай прорве вакуума,
але перш за ўсё таму,
*што мы абодва гублялі час...*

## СТАЛІНГРАДУ

Свой голас далучыць як голас брата
хачу я з мора, што ў агні палае,
да голасу свінца, якім спявае
твайго байца нястомная гармата.
Тваё імя гучыць у кожным краі —
з агню і сталі,— як сама расплата,
злюцелы Сталінград, стаіш зацята,
грудзямі разбіваеш планы зграі.
За кожны крок, за кожную руіну
няшчадна нішчыш дзікую лавіну,
савецкі твой парыў адчулі каты,
і кроў твая расплаўленаю сталлю
зліваецца з адвагай волжскай хвалі,
каб помсце даць любові нашай латы!

1942

## ПАЛЬМА

Ты — музыка, што льецца ціхаплынна,
і чыстым спалучэннем мора й ветру
твой стан аперазала выспа чынна,
як толькі ты на свет зірнула ветла.

І зорка сноў струменіцца няспынна
задыханым дыханнем палкіх нетраў,
а тропік і ягоная чупрына
прывыклі дыхаць шалам мора й ветру.

І ўраз крыштальная твая фігура
скідае покрыў са сваёй скульптуры,
што ахінаюць руху кіламетры.

Так і стаіш імклівай кветкай ззяння,
вільготнаю ад солі і світання
у санцакроным садзе мора й ветру.

## ЛЮБОЎ

Па-над зялёнай лістотай
высяцца дзве сасны ва ўзаемных абдымках
у вечары, які канае.
Гара ўдалечыні
яшчэ падкрэслівае сінечу сваю глыбокую
пад небам, якому ружовасць і жаўцізну аддае
сонца ў агоніі.
Аб'яднаныя такім чынам абедзве сасны
прысутнічаюць на імгненным свяце заходу
часцінкаю свята. І гэтаксама

сальюцца з наступнымі ценямі
і гэтак жа радасна будуць вітаць заўтра,
на ветры пагойдваючыся,
святло новага дня.
Аднак з кожнай гадзінай
з больш глыбокімі каранямі,
з галінамі з кожным вечарам больш аб'яднанымі,
пакуль не дасягнуць постаці
толькі адной сасны,
аднаго
толькі
дрэва.

## СМАГА Ў ДОЖДЖ

Лёгка было б смагу прагнаць.
Варта падставіць далоні,
сабраць колькі кропель
і арасіць імі губы і паднябенне.

Ды лепей няхай бяжыць вада
прагнаць смагу карэння,
зямлю апладніць свежай сваёй прысутнасцю,
паветра звільготніць.

Лепей дай ёй спяваць
над дахамі і над дрэвамі.
Смага мая можа перачакаць,
няхай пройдзе дождж.

# ХІСТКІ КРАЯВІД

Смугу марскую вецер прыкмячае
ён нішчыць бляск наведзены эмаллю
пакуль на строму бег шпурляе хвалю
трывае подых скрухі і адчаю.

А зорка неба ў вышыню ўздымае
дваякае між бірузой і сталлю
каб мару руху закалыхваць даллю
прачнуцца мусіць музыка нямая.

Мая маўклівасць поўніцца самотай
раздвоенасць мая знікае ўпотай
у хісткім краявідзе летуценняў
і толькі лямант рэха застаецца
як сонца што спакойна расстаецца
як вінаваты што шукае ценяў.

# Хасэ Лесама Ліма

(1910—1975)



---

## ЦЁМНЫ ЛУГ МЯНЕ КЛІЧА

Цёмны луг мяне кліча,
ягоныя жывучыя, ўсёапаясныя пакрывалы
крушацца ўва мне і на балконе маім засынаюць.
Яны валодаюць усёй ягонай прасторай,
пад якой песціцца іх няясны купал з алебастру.
А над люстрам вады —
ціхі голас сярод ста дарог;
памяць мая свой сюрпрыз рыхтуе:
лань на нябёсах, расу, дыханне душэўнае.
Не чуючы, што клічуць мяне,
я ступаю на вольны луг,
растаю ў лабірынце новым задаволеным госцем.
Там віднеюцца астанкі слынныя,
сотня галоў, карнеты, тысячы з'яўішчаў
разнасцежваюць нябёсы, не гаворачы пра сланечнік.
Дзіўныя на гэтым небе сюрпрызы,
дзе, таго не жадаючы, крокі назад ідуць
і галасы гучаць у цэнтры разбухлым.
Цёмны луг адыходзіць
між двума — ветрам і тонкай паперай.
Вецер, паранены вецер гэтай магічнай
смерці, адзінай і развітальнай.
Заціхла птушка, а за ёй — другая.

## НАЧНАЯ РЫБА

Сціхае з рыбай цёмнае змаганне,
рот рыбы — цемра берага начная.
Луска запальваецца, срэбра ззяе,
якога неўзабаве ўжо не стане.

Ёй шчэлепы ноч срэбрам пакрывае,
пячора жоўтага святла, што ў твані
знікае, холад вока пазірае
на нас, як неадказнае пытанне.

І дрыжыкі — і позірк азначае
і лёгкі смутак, і канец адчаю
і ўжо аслаблае змаганне з рыбай.

Само сябе шукае нецярпенне.
Ды не ўдаецца мары марнай пене
паўторнасць лініі той хіжахібай.

## РАЗБУРЭННЕ ВОБРАЗА ДРЭВА Ў НОЧЫ

Сябе падзеннем вылучае дрэва.
Не заўважаюць, як расце марудна.
Само сваю прастору дрэва рушыць,
само, згарэўшы, вобраз свой вяртае.

Ужо ў вачах сатканы моцны вобраз,
гайдаецца ў сваім гарэнні голле.
А вочы, скамянеўшы, адкрываюць
лісты насустрач веку маладому.

Адно трываюць ноч і вобраз дрэва.
Звер нерухомы, збіты і капрызны,
і вострыць кіпці, і дыханнем нішчыць.

У дрэва ўплёўшыся, сваю прастору
накладвае на рэчку ноч з размаху,
а рэчка разбівае ноч з разбегу.

* * *

*Актавіа Сміту*

Трэфы, крыжы, флейты, вочы, совы,
цені, дыханне, туман, засовы.

Блізіцца лета, калі, як лаянка,
дрэва скрыпіць у хаце сялянскай.

Корань гайдае ваду здзіўленнем,
і дрывасек вырастае ценем,

нібы дзве шклянкі з лёгкай вадою,
карты і шулеры з лёгкай хадою.

Туман — капялюш тапельца-жадання.
Зняць капялюш — запрасіць здані.



Ён думаў, ды не пайшоў у тэатр.
Пазваніў, ды ў званок вату ўклалі,
каб не грымеў. Затанулыя вушы
з мёртвымі рыбамі на гравюры начной.
Паранены дольман накрыў раўніну
ласо, і кінжалы разгойдваюць яго і кусаюць.
Крэсла, седзячы ў якім ён не прымаў нікога,
знаходзіцца ў музеі
побач са Смарагдаваю Скрыжаллю.
Стоячы ў крэсле, ён вітаў, кожнага за руку,
мерцвякоў. Невядома, што лепей —
калі ён вас прыме
ці да вас спіной адвернецца.
Ён у храме яго шукаў,
ды там сказалі, што ён пайшоў на хрэсьбіны
у іншы храм, дый там таксама не было
ніякіх адзнак свята — звычайны хатні абед.
У кавярні:
«Сёння першы дзень, калі ён не прыйшоў,
спытайцеся пра яго ў чарады дрэў».

Званок, прыкрыты капелюшом,
рукамі скусаны,
без звону параніць.
Званок не звоніць,
і са смецця збягаюцца ўсе пацукі.
*Мне заўсёды кажуць, што яго няма.*



Шапярні, спытайся, скажы, брыз.
Набліжаецца ягонае, што з іншым не пераблытаеш:
што ты зрабіў за раніцу?
Твар мой замкнуўся ў цэнтры бледнасці,
і тады: як у цябе з лёгкімі?
Ці ў цябе на працы нейкая прыкрасць?
Ты залішне хвалюешся, ўспомні пра бацьку свайго,
які таксама памёр малады,
гэта і ёсць самае важнае,
усё астатняе — прах, драбяза, лухта, дый годзе!
Як зразумець тады бясконцую нумарацыю смерці?
Як прыліпае яна да рыбы са слізкаю галавой,
да ўсяго, што раней знікне, чым расхінецца хустачка.
Ды настае момант, калі смерць дападае да дружбы,
і хоць дружба працягвае свой беспераестанны шлях,
фраза, пачутая ёй на скрыжаванні —
гэта фраза смерці,
пры абмеркаванні нейкага слова
смерці страла прасвістала.
Кожны з сяброў застаецца дома ў сябе са смерцю.
А каханне? Гэта манера — намацаць горла
зубамі ці слінай халоднай, якая нічога не кажа,
а цягнецца, як ліловы асколак руінаў.
Калі ж пачынаецца дзень з абуджэння пчол,
ці здоўжыцца ноч, каб змачыць сурвэтку паўдня,—
гэта толькі сяброўская сярэдзіна,
сярэдзіна і цень ад кахання,
дні здаюцца няпоўнымі, хмары прэснымі.
Ды аднойчы смерць набірае ўсю паўнату прыліву,
і яе марудная хваля заўладарыць
у прасторы за нашай спіной,
тады разумеем мы, што дружба мёртвая,
а каханне пагасла.



Прапусціць паперу праз валік
машынкі-друкачкі — асалода,
падобная да абдзімання піўнога
Рубенсавага анёла.
Папера з'яўляецца лебедзем ці курапаткай,
белая ці ў пярэстых крапінках.
Вытыркаецца конская шыя
з кожным паваротам чорнага валіка.
Удалечыні тысячы пераблытаных літар
дзяўбуць мелавы фільтр.
Валік выстаўляе грудзі
пры кожным руху неапалітанскага рычажка.
Капірка на валіку глыбіць рэчышча,
вылучаючы вінаградзіны — бухтачкі.
Інфантыльнасць валіка скоклівага
растрывожыла асінае гняздо ў пошуках патыліцы.
Блакітнавокі басейн з акуламі.
А валік склікае літары
да мелавой бочкі.

# Мірта Агірэ

(нар. 1912)



---

## ГЭТЫ ШЛЯХ

Навобмацак, як дзіця.
Як дзіця, крокам няцвёрдым.
Іду, каб грудзі працяць
Усімі нажамі свету...
Не хачу, каб шлях асвятлялі мне
І за руку вадзілі.
Спатыкацца, збівацца дазвольце мне,
Дазвольце мне падаць...

Ніхто ў дарозе
Не зможа мяне падтрымаць,
Калі сама не змагу ўтрымацца!

Гэты шлях я павінна прайсці адна...
Сама сабе апораю буду.
Сама ўтрымаюся і ўстаю —
З вераю ў сілу сваю.
Ніхто не здольны вышэй падняць
Мяне, чым мужнасць мая.
Хай кроў з капіляраў —
Толькі сама!

Малая, пылінка, а можа, і не —
Дазвольце ўсё ж да вяршыні

Дабрацца самой, без праваднiка.
Хай дух мой i мускул гартуюцца.

I нават калi я не здзейсню ўсяго —
Мне быць сабою дазвольце!

I калi адаб'юцца сляды на глiне —
Хай гэта будуць мае сляды!

Ценем лятучым, кавалачкам сонца —
Быць сабою дазвольце,
Дазвольце сябе шукаць...

## ПАЭМА ГЛЫБОКАЙ ПРАЎДЫ

Ты не разумееш, сябар,
ты не разумееш.
Дазволь мне табе растлумачыць гэта,
але не словамi —
Бо нельга на словах зразумець каго-небудзь,—
Дазволь растлумачыць маiм цёмным,
але ясным спосабам.

Гэткiм цёмным i ясным
Я разумею ўсё:
Мяне не бянтэжыць Ружа Вятроў.
Цудоўны Поўдзень,
але i Поўнач
Не менш прыгожая.
Майму дому па начах свецiць месяц,
А сваiм жыццём я магу
напоўнiць зямлю,
Калi яна бясплодная.

Я жыць умею на крыле ветра
і на хмурынцы,
Умею піць з лісця ваду.
І не заўсёды трэба гэткай высокай быць,
як Альдэбаран [1]...
Умець трэба гнуцца,
ды не ламацца.
Умець выпіць, а потым
Умець трэба чарку разбіць.
Іншы раз горад можа стаць сельвай.
Якая розніца —
так ці інакш?
Піць сонца і соль марскую на мачце высокай
Ці на катарзе...
Мне ўсё адно.
У месцы любым я ў бяспецы.

---

[1] Альдэбаран — зорка першай велічыні ў сузор'і Быка.

## *Песні хворага каханнем*

1

Кахаю — не знаю за што,
Не знаю — кахаць ці доўга.
Каханне — малітва без бога:
Малюся ў святыні пустой.
Не шле ўжо надзея лістоў,
А ў сэрцы — кахання трывога:
Не знаю — кахаць ці доўга,
Кахаю — не знаю за што.

6

Я шып гэты выняць не дам,
Бо ў сэрцы ён ад той ружы:
Няхай — праз руіны і сцюжы —
Хоць нешта ўратуецца там.
Хай нават крывавы шрам
Тым водарам будзе асмужан:
Бо ў сэрцы ён ад той ружы,—
Я шып гэты выняць не дам.

7

Каханне б пакутай было,
Калі б не было каханнем.
Хоць выпіта шчасце дазвання —

Са мною кахання святло.
Калі б не было каханнем,
Было б яно мёртвым дыханнем
Жыцця, што ў нябыт адплыло,—
Каханне б пакутай было.

## 8

Той боль, што можа спяваць,
Яшчэ не смяротна атручан.
І соллю, і ёдам гаючым
Будзе мора мяне ратаваць,
Будзе кроў маю бунтаваць.
І хоць будзе сэрцу балюча —
Яшчэ не смяротна атручан
Той боль, што можа спяваць.

# Самуэль Фейхоо

(нар. 1914)



## ДАЛЁКІ АДВЯЧОРАК

Ён быў
ружова-шэры,
яго ласкавая валовая голаў
засланіла гарызонт.

Стары адвячорак
майго юнацтва;
пяшчотным валовым языком
лізаў узгоркі ды трысняговыя хаты.

Шэры ад навальнічнай хмары,
ружовы ад часу.
Адвячорак дужа стары.
Пад яго крокамі рыпела гара.

Гэта быў ружовы вол,
стомлены і аслеплы.
І прылёг адпачыць.
Адпачыць... далёка... там...

## У РЫТМЕ СОНА

Ад кожнага мужчыны
чысціня,
ад кожнай жанчыны
чысціня,
ад кожнай ночы
чысціня.
Ад кожнага вока,
дома, дрэва і імя.
Ай,
юны выйшаў я з пальмы,
зялёны выйшаў.

Пакамечанае зелле,
паскубленае зелле,
ай, вольнае зелле,
маё, зялёнае.

## СВАБОДА

Зіхаціць сярод людзей,
зіхаціць, а ў ёй жа шчасце.
Хай людзі маюць свабоду,
хай думаюць, і свабодна.

Ай, свабодна.

Каб ніхто
не ўзломваў думку,
чыстую, пакуль свабодную.

Ай, Свабода, хай ніколі
у імя вышэйшых меркаванняў
не чапаюць цябе
усемагутныя!

Бязмежная Свабода,
бледнатварая багіня,
дух нашага паветра,
ні кроку назад!

## МУЖНАСЦЬ

Будзь мужнай,
і тады я падумаю
пра скалу над вечаровым морам,
пра чайку ўвышыні.

Будзь мужнай,
любоў мая,
і тады я зноў пабачу
вечар, азораны табою.

І тады я пазнаю
неба таго вечара
над морам смерці,
да якога я іду без цябе.
Будзь мужнай.

# ЗА СТАЛОМ З АБРУСАМ

Святло адбіваецца
на абрусе праз кожны келіх.
Піяніна пралівае
вандроўныя мелодыі,
лёгкія і старыя. Эдгар По
скончыў жыццё біты. Хасэ Марці
таксама — біты.
Мы не адны,
халоднае святло
над восеньскім сасоннікам,
нібыта палатно Сезана,
з намі.
Не, месяц Неапаля —
толькі песенька. Вершы,
празрыстыя і простыя,
як лісце вікарыі [1], з намі.
Страшае ноч, але
заўсёды знойдзецца сялянская хата,
дзе можна пагутарыць, пакуль вецер
вые звонку над бананавым гаем.
І певень спявае, і гаворым і смяёмся
у святле сціплай лямпы.

---

[1] Шматгадовая павойная расліна на Кубе.

# ВЯЛІЗНЫЯ
# АБЛОКІ

Вялізныя аблокі,
вы робіце чырвоную гару на небе.
Нада мной — ваша полымя:
вы не падумалі, але
агромністае неба ды горы
цёмналіловыя душаць мяне!..
Не падайце, паветраныя горы-калосы!
Прыпыніцеся!
Хтосьці ёсць, любоў мая,
хтосьці
жыве слаўна
на мірных нябёсах,
народжаны імі ж,
каб фіялкавая бязмежнасць
не схуднела марна!

# Рауль Ферэр

(нар. 1915)



---

## ЗАПАЛКА

Калі ў мяне застанецца адна запалка,
Я сцерагчыся буду ветру.
Я не магу памыляцца.

Калі ў мяне застанецца адзін патрон,
Я сцерагчыся буду страху.
Я не хачу памыляцца.

Калі ў мяне застанецца адзін дзень,
Я сцерагчыся буду часу.
Я не магу памыляцца.

Пакуль жа ў мяне заставацца будуць
Хоць адно слова, адна усмешка,
адзін позірк —
Я даражыць буду кожным з іх,
Каб упасці і прарасці ў народзе,—

І я не хачу,
Я не магу памыляцца!

## ГАДЗІННІК

Дакладны,
Зверан з пульсам маім,
Сочыць, як я жыву,
І нясе мне жыццё.

Спачувальна і тактоўна
Маўчыць, быццам не знае,
Да якога «цік-так»,
Апошняга і канчатковага,
Набліжае мяне.

## САНЕТ ЧАЛАВЕКА, ЯКІ АДЫХОДЗІЦЬ

Як час ляціць, тады я заўважаю,
Калі адна хвіліна застаецца.
Аднак, пакуль жыву, усё здаецца:
Ніколі і ніхто не памірае.

Абуджаны для моманту, што мае
Адзіны момант — смерць маю — на мэце,
Я на павой гляджу: ён застаецца
Замест мяне сад аглядаць у маі.

Цяпер я знаю, для чаго жыву тут.
Дзеля ўсяго, што ад тых душ далёка,
Дзе эгаізм падсочвае атруту.

Дзеля таго, каб свет жыў у лагодзе,
Каб чалавекам быць з душой высокай
У чалавеку, што прыйшоў і пойдзе.

## ПАЎДНЁВЫ ВЕЦЕР

Бываюць дні ў бяздушным спалучэнні,
У скрусе беспрычыннай і імглістай:
Тыранскія дыктуюць даручэнні
Мне ў доме пад страхой маёю чыстай.

Паўзуць глухія месяцы, як цені,
Калі пяшчота ападае лістам,
І ў летаргічным сне маё натхненне —
Ні постаці, ні творчасці агністай.

Паўднёвы вецер над адкрытым домам
З сябрамі на парозе, што, вядома,
Прыйшлі сустрэцца з радасцю маёю.

Дом, дзе агонь, дзе чалавек спявае,
Якога я ніяк не адшукаю,
Ні днём не стрэну, ні начной парою.

# Элісэа Дыега

(нар. 1920)



---

## ПРА ПОЎНЮ

A joyless eye [1].
Карацей, яна — гаспадыня
руінаў.
Кузуркі сумныя,
якіх не бачым амаль, казялкі
з вачыма агіднымі, і цярплівыя
жукі з геральдычнымі панцырамі
насяляюць пад сонцам ціхманую
і жорсткую траву, ды баяцца
бледнага позірку.
Бо яна
як уцякачка, і ўсё,
што бачаць вочы яе, ператвараецца
толькі ў сон.
Яна
спіць і не чакае
аніякага іншага цуду, апроч цішыні.
І нічога іншага,
апроч сну, яна не абяцае ані.

---

[1] Сумнае вока *(англ.)*.

# ЖАНЧЫНЫ, ІХНІЯ ГАДЫ, ІХНЯЯ ПРАЦА

Аднойчы вечарам мая бабуля
трымала ў руцэ, што карункі,
свае гады,
                а пасля
заснула.
                Я шукаю і сёння
працу яе — ў шафах глыбокіх,
на балконе! —
і не знаходжу;
а толькі знаходжу маці маю,
што без стомы
у засені дома
шые хусцінку, такую лёгкую,
такую лёткую.

# ВОСЕНЬСКАЯ МАРЫНА

У тумане ты з пяшчотаю ўспамінаеш
пляжа старэчы шэпт
і тэнты, што гутараць бесперапынна з
цёмнымі палярнымі мадрэпорамі.
Нібы крышталікі мокрыя,
блішчыць у пяску канчына.

(Маленства тваё ў лахманах нас хвалюе
аж да фуражкі з залачонымі літарамі,
ў той час як паўдзён усміхаецца
ракаўкамі з тугой бязлітаснай).

Фантастычнае пісанне — рыбін хрыбетнік у
шаўкавістых водарасцях нявінны,—
ніколі не расшыфроўвай яго, і яно нас азорыць
болей, чым шчасце са свяшчэннай вітрыны.

Ужо арол пунцовы твайго рукава
выпіў дзікай расы замнога.
Ты не кранай ніколі каменьчыкі гладкія,
як папярэджанні, ў паўторы нястомныя, старога.

Твая з дзіўным спевам памяць
супакойваецца, як маска, зробленая назаўсёды
у трывалай завершанасці смерці.
І мы просім твайго анёла нас вызваліць
ад бледнай успомненай непагоды.

## ТВАРУ ЯЕ НЕ БАЧУ НІКОЛІ

Кажа старая: «Смерць
блізка зусім, а я
твару яе не бачу ніколі».

Кажа старая: «Яна балбоча,
балбоча, і мне напамінае
цюль, далёкую песню
долі».
«Але ніколі,—
кажа старая,— ніколі
твару яе не бачу.
Яна мне напамінае
цюль, далёкую песню долі».

## СТАРАЯ Ў ЛЕСЕ

Кажа адэлантада[1]: «Праз дождж
бачу, як прыходзіць і садзіцца
ў лесе смерць. Аблічча
яна ахінае мантыяй.

Няўжо
гэтая старая ідзе з Кастыліі, бедалага,
ідзе з сялення майго? Крычыць
папугай, заліты крывёю, які
хацеў бы яе суцешыць.

Беражы нас бог.

## У ГЭТЫ САМОТНЫ, У ГЭТЫ АДЗІНЫ ВЕЧАР

Грозны леў
усмак пад'еў,
тыгр пад'еў,
і дужы слон
з'еў свой поўны рацыён.
І напіў вады вярблюд,
зебра спаць
пайшла ў свой кут,
ну а малпе давялося

---

[1] Адэлантада — у старой Кастыліі губернатар каралеўства, пазней — губернатар зямель, якія маглі быць адкрытыя ці заваяваныя.

ўладзіцца ў перапалосе.
Глянь,
сабака з усіх ног
бег
зрабіць перапалох,
ды ні ў голадзе,
ні ў сне
і не
у перапалосе
месца цюцьку
не знайшлося.
Бо яго мы
ў гэты вечар
да сябе бяром,
дарэчы.
Спі, сынок,
твой смачны сон
павартуе сёння ён.

## УВЕСЬ ЗМРОК

...я не мог болей пакутаваць, убачыўшы іх, што памíралі з голаду на маіх вачах; таму я вырашыў адвесці іх заўтра ў лес.

Перо

І здарылася так, што ўрэшце голад
над добрым хлебам верх узяў,
і Хлопчык-Лоўчык след згубіў.
Ніколі болей
не скажа ўжо:
ўсё добра,
ўсё ўладзіцца.

(А здарылася,
каб не бачыць, як яны паміраюць,
каб толькі не бачыць, як яны паміраюць.
А цяпер
час надышоў убачыць гэта).
Хлопчык-Лоўчык
кліча, знайшоўшы цішу лесу, і
кратае яе.
Мае браты —
сказаў ён,
можа быць,
вам страшна дома ад такога густога змроку.

## СТАРАЯ НА ЛЕСВІЦЫ

Па пустэльнай, шэрай і цяжкай студні
з якой цяжкасцю ты запаўняеш лесвіцу
з мармытлівымі дошкамі, што згнілі,
з забытай шкоды гарадскіх ускраін. Ля
сэрца свайго ты нясеш тоўсты мех, ты
грукацца ўжо сілы не маеш. Гэтыя дзверы,
на якіх час малюе пустэльны раён,
збеглы ад святла дзённага. І табе
адчыняе хлопчык, які цябе абдымае хутка,
прыціснецца моўчкі да цябе, быццам хацелі
дакрануцца надзеі. І тады падскоквае засмяглая
лялька, пераскокваючы цераз пару ежы, а побач
з прадоннем устае жахлівае сонца,
якое ты называеш шчасцем.

# ПАЯЦ

Па
кірмашовым балагане
брыдзе
маленькі паяц
з задзёртым, нікчэмным
носам.
Па
вольнай
прасторы,
наіўны,
брыдзе
паяц удачных
падзенняў,
хады,
якая ідзе на шкоду.
У засені
вялізнай палаткі брыдзе
цераз суцяшэнне,
шчасце
журботны,
у думках здзіўлены
палкі анёл маленства.

# Сінціа Віцьер

(нар. 1921)





Як чым абдзелены вечар,
І неяк сосны зрадзелі.
Гляджу на хмурынак веер,
І мрояцца мрояў цені.

Пытаю хвілю за хвіляй,
Калі ўсе патрачаны скарбы,
А цені іх у паднябессі
Плывуць халоднаю скаргай.

Глядзіць на мяне жаданне,
Як адзінота, бясконцая;
Маўкліва запальвае смутак
Адбіткі вечнасці соннай.

Не дацягнуцца рукою
Да наканаванай планеты;
Жыццё маўчыць на паўслове,
І мары павіслі ў паветры.



Матэрыя, маці, мора, Марыя —
Еднасці корань у словах,
Што поіць і сэнс, і водар іх сокам
З глыбінных, як вечнасць, сховаў.

Матэрыя — гэта цнатлівая маці,
Што існае ўсё нарадзіла,
І аб нявіннасці мара
З містычнымі формамі дзевы.

Мора створана з вод хаосу
І з бляску граніц бязмежжа,
Гэта горкае ўлонне Марыі
Для таго, хто паклікаў нас грэшных.

Дык абмый нас, бурлівае мора,
Як сыноў абмывае маці,
Шлях пазнач нам, зорка Марыя,
У матэрыі — вогненнай магме.

## РАЗВЕШАНАЯ БЯЛІЗНА

Развешаная раніцай бялізна —
Той раніцай палёў у росных зорках —
Пад ветрам птахам шастала вялізным,
А сёння згасла ў задуменні горкім.

У дворыку цэментным, што як вежа,
Ты радуеш красой тваёй заўсёды —
Яна ад волі ветру не залежыць,
А ад таго, што доўжыцца праз годы.

Жыцця працяг — і мужны, і шчаслівы —
Пасля агоніі смяротнага ранення,
Ты, як бабуля мудрая, паслухай —

Табе кажу: «Ілюзія і дзіва,
Мне захавай жыццё — ўсё да імгнення,
Ты, быт народа з непакорным духам».

## ПАВЕТРА

Я прачнуўся; я холадна
Гляджу на тыя рэчы,
Што перастаюць быць загадкавымі.
Вось яны тут, як дрэвы
На адкрытым паветры. Вось я прачнуўся.
Нават дом майго дзяцінства належыць іншым:
Яны пафарбавалі яго ў крыклівы колер,
Яны ходзяць назад і наперад
па пакоях маёй душы
Размаўляючы аб нейкіх чужых мне справах.
Святло запаўняе дворык майго тайнага «нішто».
Я гляджу на гэты твар, які таксама нічый
І які з'яўляецца цяжка параненай птушкай
Ад тых, хто пакутуе і ўсміхаецца.
О незлічоны народ. Я прачнуўся.
Я гляджу на пыл, пранізаны промнем,
На змрок, у паветры рассеяны,
Калі пачынае праступаць ісціна:
Дрэва, радасць, самаахвярнасць.
І я знаю, што ў крыві маёй успамінаў больш,
Чым я помніць магу, і больш забывання,
Чым забыць можна ў гэтым свеце.

Ды ўрэшце, што мне да таго,
Што палова жыцця выслізгвае ад мяне і руйнуецца,
Што, нарэшце, столькі мрояў абуджана
І няма мясціны, на якую я не глядзеў бы,
І імгнення, у якое штосьці не адбылося б са мною.
Я хачу быць такім, як ты, добры твар беднякоў,—
Загадка болю і ўсмешкі.
І паветра — простае і празрыстае —
Напоўніць нашы галасы і надзеі.

## САБАКА І МОРА

Уваходзіў сабака ў мора
За дзяўчынкай,
Маленькай багіняй сваёй,
Ішоў, разганяючы пену.
А дзяўчынка знікала,
І маці сачыла за ёй;
І вечар бязмежны згасаў,
Пахмурны і ўсеагульны.
І яны былі надта вялікія,
Каб гуляць са стыхіяй,
Каб смяяцца з нявінных і страшных
Пырскаў.
Якія мізэрныя мы,
І якое жыццё наша горкае,
Калі скарб аддаём неацэнны
Сумненням.
Уваходзіў сабака ў ноч
За дзяўчынкай,
І, гуляючы, разбіваў
Пену на цёмнай яшме.

# Актавіа Сміт

(нар. 1921)



---

## *На скрыжаванні*

### 1

Белы порт скрыжавання
Чакае мяне, каб тут я пабачыў аўтобус,
Што пыхкае, стомлены і вясёлы.
І ў таго, хто выходзіць з дзвярэй,
Выгляд важны і разам ласкавы.

А кварталы — гэта шум і давер.

Вось праплывае кавярня,
Дзе ў матавым штучным святле
Зала шыкуе адчайна і молада.
Гэта час — калі за размовай
Адчуваеш, як стомлена кубкі цяжэюць,
І хтосьці з усмешкай завялай
Глядзіць у сцяну, а пальцы
Няўцямна аб мармур стала барабаняць.

«Сын малодшы, як здуру, узяў
Аддзяліўся
І з'ехаў чорт знае куды».

Што ж, бягляк дзесьці іншыя сеці
Шукае...
А ці варта?..
Хай бы лепш пільнаваўся
Парога бацькоўскае хаты.

А той, хто ідзе пасля спякоты
Па вуліцах чыстых і свежых,
Няспешна ўзносіць хвалу
Ценю, што падуладны спакойным рукам.

4

Нам падабаецца вучонасць дажджу,
Што тонка падае на галовы паркаў;

Нам падабаецца дзень, падобны
На ўсмешку няўдачніка;

Нам падабаецца рэчы старыя знаходзіць
На гарышчах, даўно забытых.

І нас амаль пераконваюць лаўкі пустыя,
Што на іх нараджаецца

І ўзносіцца маўклівае абяцанне —
Той голас, лёгкі і стрыманы.

Мы думалі, што каханне было малітвай,
А яно ёсць упэўненасць і абвяржэнне.

———

## ДОЖДЖ У ВЕРАСНІ

Льецца дажджом руіна маўклівая, шэрая,
Цела агромністае пырскае з пачуццём
Салодкай важнасці пераканання.
Льецца дажджом бледны танец,
арфа брудная і пяшчотная,
Дзень збірае ў далоні бедныя
Свой залаты разбіты кубак.
Льецца дажджом Верасень, як голы кароль.
Спустошаны і зябкі паток гусцее і гусцее,
Быццам хтосьці мяняе паветраны пурпур
На мутную цямніцу гардзін.
Свет, працяты стралою смерці,
Вялы і раздроблены на кавалкі.
Льюцца дажджом
вытанчаныя адкіды знатнага паходжання,
Як пасля танцаў вяртаемся мы дадому
Пахмурным світанкам.
Як адзінокі наведнік
Праз шкляное вока кавярні
На плошчы завялай, пустэльнай вечнасці
Глядзіць на змоклыя,
Перамытыя да касцей афішы
Ілюзорных дат,
Так і я, утрымліваючыся ад меркаванняў,
Сяджу сур'ёзны, быццам думаю аб чымсьці пабочным.
Падае, льецца, высакародная субстанцыя,
І сцены — кропля за кропляй — пераконваюцца,
Што яны ўсяго толькі — выдумка састарэлых цнатлівак
У таемных пакоях.
Ідзе дождж, і дзяўчына, з'яднаная з ноччу
Вачыма і валасамі, абцяжаранымі спакоем,
Як не вартая ўвагі маёй... Бо ідзе дождж,
І нічога, апроч сцятага маўчання,

Што енчыць азябла
З марным імкненнем вырвацца з горла майго,—
Нічога няма. Няма, бо навошта
Распытваць за гэтым попельным гушчаром фанатычным
За самаадданым і з'ядналым лесам дажджу.
Навошта — калі блукае навокал
Гэты мяккі снатворны жах,
Набраклы ад позіркаў ратазейных,
Маўклівы ад бледнай крапівы.

## ВЯЧЭРНЯЕ МОРА

Спакой і веліч. Мантыя застыла
Ў марудлівым старанні і ў свячэнні —
Як зорка пераможнай змрочнай сілы,
Пакутная планета прабачэння.

Калі ўзляцяць твайго натхнення крылы —
Той міг — акно, куды гляджу без ценю
Сумоты пра касмічны воблік мілы,
Пра дзеву зорную, пра эфемерны геній.

Стаць шклом хачу расплаўленым, зіхоткім,—
Ты форму дай — тугім, цёмна-ліловым
Дыханнем слова, што схавалі продкі.

Яго ўзнімі з глыбіняў, тое Слова.
І сэнс яго — Дзевяты Вал — знаходка,
З якой тануць мне і ўзлятаць нанова.

# Хесус Орта Руіс

(нар. 1922)



---

## ГЭТА МАЦІ МАЯ

Яна гадавала ўсіх нас цярпліва,
з хворай нагою на лаўцы
і са сваёю заўсёднай усмешкай...
Яна нас карміла і абмывала
з хворай нагою на лаўцы
і са сваёй заўсёднай усмешкай...
Ды час прыціснуў яе да крэсла
з хворай нагою на лаўцы
і з яе заўсёднай усмешкай...
Палічылі б яе за скульптуру,
каб не было заўсёднай усмешкі...

## ГЭТА БРАТЫ
## І СЁСТРЫ МАЕ...

Адэлаіда, Эдуардзіта, Арманда, Чэа
і яшчэ самая малая,
пра якую я забываю заўсёды
і якая сёння была б вялікай,
ды так і засталася
дзяўчынкаю ў нашым доме.

## А ЯШЧАРКА, ШТО БЯЖЫЦЬ ПА СЦЯНЕ?

— Мы да яе ставімся як да радні.
Яшчаркі, жабы, павукі,
камары, мышы і скарпіёны
не ўлічваюцца ніколі
пры Перапісе насельніцтва,
а яны ж таксама ў нашых дамах жывуць.

## А ТАМ ЖЫЎ НЕГР ЯЙЁ

Папраўляючы заржавелы дрот
на сваёй убогай ляжанцы,
ён марыў стаць вялікім баксёрам,
якім быў Кід Шакалад.

Завіхаючыся над дротам і марай,
ён параніў сабе палец.
Ведучы бой з Кідам Слупняком,
ён упаў на памост начы.

Накаут.

## ВЫЕ САБАКА

— Бяда!
Нехта памрэ.

Часам ніхто не памірае,
але гэтай прыкмеце верыць трэба.

Калі сабака вые жахліва
і калі сабака зусім не вые,
усё адно —
заўсёды памірае нехта.

* * *

Калі ты не хочаш, каб хтосьці прыйшоў,
адгарадзі ад яго свой дом —
пакладзі мятлу з соллю
побач з дзвярыма.

Заўжды ненавісны для нас
быў прыход галечы.
І кожны раз, жадаючы запыніць яе,
мы яшчэ болей бяднелі.

Так мы страцілі соль.

* * *

Не давай, каб крэсла калыхалася пустое.
Можа прыйсці нябожчык і яго заняць.

Я штурхаю і прымушаю калыхацца
старое крэсла
з надзеяй, што прыйдзе Хасэ Пас
і дасць мне цукерак, як і раней.

Ды Хасэ Пас не прыходзіць...

# Фіна Гарсія Марус

(нар. 1923)



---

## НА ШАШЫ

Дом прамільгне адзіны ля дарогі
пад шэрым непагодлівым надвор'ем.
Усё навідавоку там. Бялізна
ў двары вісіць, як хмара ў шкуматанні.

Як называецца вунь тое дрэва
са зморшчанай пажухлаю лістотай?
Імкліва наш аўтобус праязджае
па цяжкім ранку беднякоў гаротных.

Запыленае на парозе крэсла.
Супроць адчыненых дзвярэй тракціра
кінатэатр, дзе ўжо не круцяць фільмы.

І вось мы ля мясцін з ласкавай назвай:
Каталіна, Мадруга. На калоны
лёг мяккі цень лагоднасці вячэрняй.

## НА ЗАДВОРКАХ АРОЙЯ НАРАНХА

Гляджу я на агонь, які палае,
запалены вячэрнім небам чыстым:
гарыць ліства, адкіды, шклянкі, смецце
там, побач з ціхім ачагом агністым.

Гляджу з захопленасцю я нямою
на скрыжаваныя святлом пад'езды,
на кухні ўсе з духмянаю плітою,
якія вабяць незвычайным пахам.

Сядзіць з малечай на каленях маці,
глядзіць, як вечар ціха адплывае,
дзіцё, як вецер лісце, калыхае.

І ўсё здаецца нечым некранутым,
у вечнасці адзначанай любоўю,
якая ў свеце ўсё перамагае.

## У ЦЯГНІКУ

Якія дзіўныя словы
За цягніковаю шыбай!

Здаецца, блізка, а іх не чутно.

Тыя, што размаўляюць,
выходзячы з падзямелля
заклапочана і мітусліва,
нібыта якія мурашкі.

Дыялогі падрыгваюць дзіўна,
як ножкі ў вірластай кузуркі,
жыве што на свеце нядоўга.

Ды нам удалося
пачуць тыя словы.

Колькі мільёнаў
нямых, як трава, назіранняў!

Ці зменіцца станцыя нейкая,
ці прагартаеш старонку
знаёмай даўно газеты,
заўсёды сябе запытаеш
пра неба і хатнія справы.
Так час свой спазнаць мы не зможам!
Глядзім, як на фільм старадаўні,
дзе хутка падзеі імклівяць,
дзе лётаюць лёгка каровы
на крылах, сатканых з туману.

## АБРЭЗАНАЕ ДРЭВА

Яно ад дрэва звыклага далёка
без рук, без галавы паволі чэзне.
І ўсё глядзіць сумотна, аднавока
на дом, схаваны тынам высачэзным.

Начамі яно пудзілам здаецца,
а выпадкова хто яго асвеціць,
і жалю між сукоў не застаецца,
дзе сум калісьці калыхала вецце.

Душу якую маеш, чалавеча,
што войны дрэвам абвясціў цяністым,
што абразаеш іх, што іх нявечыш?
Ты любіш толькі сонца ў небе чыстым.

А дрэва з пальмай параўнацца хоча,
што кветкаю ў пустыні расцвітае.
Прыгледзься добра, як яно ахвоча,
як злосна ліст стары з сябе скідае.

## ПРАВІНЦЫЯЛ

Складзеным парасонам
для кожнага ён выглядае,
чорным, як смоль, парасонам,
што ручку ліловую мае.

Ветлівы, змрочны, як на хаўтурах.
Культурны, нібы труна.
Згінаецца лёгка яго спіна,
урадаваю брашурай.

Ён слухае ўважліва, як гісторык.
Далікатны з усімі старымі.
Дома ў яго засталося дзве цёткі,
і ён іх пляменнік любімы.

Калі доктара часам спаткае,
такую выказвае павагу,
што здаецца, ён казырае
нацыянальнаму сцягу.

## ВЫКЛАДЧЫК

У поўдзень гарачы чую,
як гітара пад рукою старога
выконвае мазурку.

Мелодыя зачаравала
дзяўчыну, яна ўсміхаецца
ўсмешкаю Моны Лізы,
на калені паклаўшы рукі.

Захавала ў старога памяць
толькі гэтую схему
просценькай полькі,
аднак яна вызначае,
як правільна трэба сыграць
знаёмую сэрцу мелодыю,
дзе плынь часу адбіта выразна.

Мелодыя доўга гучыць,
Слабенькая, як дзіцёнак.

## КУХАРКА

Ты, што разводзіш
агонь раніцою кожнай,
ты, што дорыш глыбокі
водар пахучай кавы,
ты служыш на алтары:
жыццю стол твой просты служыць;
ты кожны дзень люляеш
заледзянелае сэрца

і нават не маеш думкі
аб высокім сваім прызначэнні:
самотная і штодзённая,
ачагу верна месу ты служыш,
яго захавальніца.

Я ласку тваю прымаю
дзень кожны з вялікай падзякай.
Я падбіраю з любоўю
кропелькі поту, пралітага
ў стараннай нялёгкай працы.
Не ведаеш, што ты значыш,
ты, што агонь разводзіш.

## ДВОРНІК

Удалося мне ўбачыць такую сцэну:
Мужчына стары віхурыстай раніцою

падмятаў непаслухмянае лісце
вялікай, з жалезнаю ручкай, мятлою.

Шалёны вецер лісце разносіў,
а ён змятаў яго ў кучу ўпарта.

Ў гэтай нямой эпапеі
быў пахвалы ён варты.

Шалёны вецер не супімаўся.
Лісце ўзлятала амаль пад аблокі.

Я назірала ўсё гэта праз шыбу:
сцямнелы стары быў, як бог, адзінокі.

Не быў ён далёкім, не быў ён вар'ятам,
мне твар яго бачыўся ўпартай спіною.

Ён меншаў, здавалася, ў той кругаверці,
таемнай бязлітаснасці быў слугою.

Ён з ветрам змагаўся няўмольным,
ён стаць пераможцам быў здольны.

## СТАРАЯ ГАЗЕТА

Ў тваіх загалоўках многа адтулін,
што старажытным шрыфтам здаюцца,
у іх мне ўрокі літар даюцца,
якія ў будучыню зазірнулі.

Твае навіны знікаюць, як грошы
з беднякавага партаманета,
ператвараючыся ў грозьбы
нязведанай часам планеты.

Дзень сённяшні госцем хвілінным
наведваў твае старонкі,
ды ў часе імкліва-плынным

не знікнуў твой голас звонкі,
ў квадратах тваіх не загінуў,
з жыццём ён імкнецца наперагонкі.

# Раланда Тамас Эскадро

(1925—1960)



---

## СЯМ'Я

Маці мяне галубіць і песціць
кожны дзень.
Дзед кульгавы мыліцамі грыміць.
Аўрора не збіраецца выйсці замуж:
аб тым толькі марыць.
Алема фарбаваць пачынае пазногці.
(Перуча яшчэ жывы.)
Маці часам сядае за піяніна.
Антоніо — кухар,
а Сальвадор завіхаецца каля машыны.
Энрыка!..
Няма Энрыка!..
(Гэта ён прагуляў грошы?..)

## АСМЕЛІЦЦА

Хай бы хтосьці ўзяў, і ўстаў
і сказаў, і зрабіў,
ці хоць кінуў бы першы камень.
Хай хто-небудзь захоча ўстаць,

хай асмеліцца ўстаць,
мы — смяротныя людзі
ў спрадвечнай пустой мітусні.
Хай між вас хоць адзін чалавек
супраць свету ўсяго паўстане,
дзеля свету ўсяго.
Хоць адзін чалавек паглядзеў бы на сонца
і не аслеп...

## СКАНАННЕ

Дзядулю ўкрыла века дамавіны,
ды мы чакалі гэтае хвіліны,
бо біў старога несупынны кашаль,
і ён давіўся нават мяккай кашай,
ён раптам праказаць не змог ні слова,
а бляск вачэй яго быў нейкі дзіўны...
Да смерці ў дзеда выплаканы слёзы,
бо мы чакалі гэтае хвіліны...

## ВЫМЫТЫ СВЯТЛОМ

Вымыты Святлом, спускаўся з гор я,
вымыты густым Святлом,
вяртаўся ў дом свой родны
і пішу на пакамечанай паперы
пра здзіўленне, і страх, і роспач,
пра ўсё, што мяне спаткала.

Вымыты Святлом, я пайшоў да сваіх любімых,
каб убачылі ззянне, што мяне акружае;
для таго і спусціўся з гор я...
Я хачу, каб мяне ўсе бачылі.

* * *

Да мяне, бывае, нешта даходзіць,
навіна далёкая якая-небудзь,
што пераходзіць з вуснаў у вусны,
са старонкі і на старонку,
і я пачынаю ўспамінаць
дні, што даўно прамінулі,
мясціны, якіх я болей не бачыў.
І тады памірае вечар
у мяне на вейках, і я засынаю.

## СТРАХ

Людзі мяне не бачаць нібыта,
нібыта я зусім не існую,
нібыта абалонка, у якой я жыву,
не мае ніякай формы,
и значыць, існаваць я не павінен.
Дык гэта ж добра, я іншага не жадаю.
Людзі ўяўляюць, што я мёртвы.
Таму я вельмі баюся,
што яны заўважаць, што я існую,
баюся, што мяне яны ўбачаць

і выкрыкнуць маё імя
на ўсю анямелую вуліцу.
Я заўсёды страшэнна баюся,
што мяне раптам нехта заўважыць.

## ЗОЛАК

На золку
я ўстаю, п'ю каву,
апранаюся і выходжу з дому.
Я цвінтар свой хачу знайсці?
Я наведваю пыльныя вуліцы,
гляджу ў прыадчыненыя дзверы;
бачу твары, што сочаць за мною,
вочы, што ўглядаюцца пільна,
хуткія ўзмахі рук.
Так я ў горадзе дзень праводжу,
на яго дазорную вышку
падняўшыся сваёю душой.

* * *

Я ўцякаю з горада часам. Далёка,
каб пазбегнуць яго мітусні і дыму.
Як вар'ят, я імчуся
па бяскрайніх саванах
і выкрыкваю ў пустыні
свае вершы.
Толькі вецер і птушкі
вітаюць маё вяртанне.

## ПАЗЫКА

Я распазычыў усё, што меў:
ногі, кашулі,
свабоду, якое, прызнацца,
і сам не ведаў.
Я пазычаю сваё сэрца,
сваё цела з касцямі разам.
Я хачу, каб хто-небудзь
пазычыў мне трохі любові.



Ніхто мяне не кліча,
ніхто,
ніводзін голас не вымаўляе майго імя.
Чаму ніхто не ўспомніць
пра мяне?
Ну, хоць бы сябар мой, якому
я пазычыў сваю кашулю,
ці жанчына, на якую глядзеў я
з глыбіні душы.
Толькі цяпер, калі столькі ўспамінаў сабрана,
я адважыўся папрасіць,
каб мяне паклікалі,
каб вымавілі маё імя,
каб мяне пацалавалі
хоць бы ў шчаку,
каб мяне хоць бы трохі любілі
такога, які я ёсць,
каб мяне аднойчы паклікалі
і назвалі маё імя.

# Лусіс Марэ
(нар. 1929)



---

## КАЛІ Ў МЯНЕ СПЫТАЮЦЬ...

І калі аб прычынах мяне спытаюць, я скажу...
Пра маё дзяцінства, пра любы яго дзень.
Да прыкладу, час садзіцца
За стол: была адна толькі міска
На белым абрусе. І малыя ледзь-ледзь
Лыжкай дацягваліся да яе.
Але колькі разоў не даходзіла лыжка
Да рота маці маёй?
Колькі разоў?..
І калі аб прычынах мяне спытаць, я скажу...

## ДЗЕ ЖЫВЕ ЧАЛАВЕК

*Раберта Дзіясу Фрахіналсу*

Настаўніка мы любілі
Крыху,
І нехта даводзіў, што ён
На паэта Марці падобны —
З партрэта ў чырвоным кутку:

Лоб шырокі, адкрыты
І рамантычныя вусы.
Я помню яго шакаладны сурдут.
А Педра казаў, што ён прусаковага колеру,
Таму што быў дурнем Педра,
І настаўнік па дзвесце разоў
Прымушаў напісаць яго сказ:
«Я павінен уважліва слухаць на ўроках».
Сурдут
Прыкрываў яго зацыраваныя ззаду штаны.
Настаўнік быў бедны.
                    Як заўсёды, былі
Настаўнікі бедныя.
                    Менавіта таму
Я разлюбіў яго
               ў дзень,
Калі ён пасмяяўся з усімі,
Што не мог я назваць
Ні нумар дома, ні вуліцу,
Дзе жыву.
«Пасля ручая
Трэба налева звярнуць.
А завулак яшчэ адзін пройдзеце —
Там і спытайце...»
                    І настаўнік смяяўся з усімі.
Толькі што я тут мог парабіць:
Не было ў нас ніякіх вуліц,
Не было дамоў з нумарамі.
Але ж ясна, ясней за яснае:
Дом — ён там, дзе жыве чалавек.
                              І ўсе мы
Гэта зналі,
           нават настаўнік.
Ён жа сам гаварыў:
«Пра многае ў кніжках не пішуць».

# Франсіска дэ Араа

(нар. 1929)



## АЎТОБУС, У ЯКІМ Я ПРАЖЫВАЮ

Мой дом — аўтобус, дзе я пражываю,
карабель, што плыве па рацэ часу,
свет, агорнуты ноччу,
ажыўлены днём,
дзе людзі ўваходзяць і выходзяць,
ведучы між сабой размовы,
або застаюцца паабедаць,
а то і сям'ю пабольшваюць
на некалькі год
або пачынаюць чакаць
кагосьці знямела-маўклівага,
які ўжо ўвесь дом запаўняе сабою
і які разважае,
абыякавы да ўсяго,
пра напрамак аўтобуса, яго прыпынкі
на рагу вуліц,
пра тое, што ён ужо не хоча
ехаць далей,
і яго падпіхваюць пасажыры:
ім трэба ў наступны дзень.

# МАЕ РОДЗІЧЫ — ЛЮДЗІ

Я нічога не ведаю пра сябе,
амаль нічога пра сваё імя,
я толькі ўмею любіць наваколле,
я добра ведаю, пра каго гавару
і каму я абавязаны
часам, у якім жыву,
прагай, самім жыццём,
вадой, што цячэ няспынна
і напаўняе ўсю істоту;
я добра ведаю вочы,
якія зрабілі мяне чалавекам.

Я гавару пра бацьку,
які, як мару, насіў мяне ў сабе
і даў каманду часу,
я гавару пра бацьку, які з тугою
выношваў надзею,
стварыў
сусветы
сваімі рукамі;
я гавару пра таго, хто скіраваў вочы
на шчасце, на радасны час,
хто вопратку сваю аддаў смерці
без болю і шкадавання.

Якая гэта маленькая плата —
гаварыць,
і які слабенькі голас
для яго вобраза!
А які пяшчотны след
пакінуў дзядуля
святочным агнём сваёй працы,

стварыўшы загартаваную сям'ю!
Якая ўпартая элегія
бабулі,
пры якой сям'я распусцілася кветкай
вакол яе прывабнасці!
Які гэта подых слабы — расказваць
пра тых, хто бакі мае падпіраў.

Я горача люблю белую
пяшчотнасць драўніны,
каб думаць пра сэрца
цесляра,
які зрабіў для яго сціплую скрынку,
зрабіў мэблю для часу,
вясёлы кіёк для няшчасця,
салодкія дошкі для кахання,
прытулак для слёз
і спачын для людзей;
вось ужо з ценем смерці
я гавару зноў пра бацьку,
з рук яго выйшлі людзі,
каб заняць свае месцы-пасады,
як мэбля, што расстаўлена ў доме;
я назваў бы сэрца яго:
«гнеўны цукар» (ды толькі
насуперак фальшывай вопратцы смерці),
я назваў бы вочы яго:
«роспачным інструментам» (ды толькі
насуперак фальшывым назвам смерці).

А што мне сказаць пра чалавека,
які назваў сябе імем — Партыя,
які аддаў сваю любоў,
свае імкненні
Партыі,

якi аддаў ёй трывожны час
i назваў жыццё сваё Партыяй,
якi навучыў мяне гаварыць
«таварыш»,
слова, падобнае на галубку,
якi навучыў мяне крокi чытаць,
крокi сусвету,
позiркi, ў якiх час згусцiўся.

Ён сам — гэта ўжо вобраз
чалавека,
бо ён з'яднаў у адно ўсiх людзей
няхай сабе моваю iншаземца,
i азначае гэта, што ўсе людзi ёсць людзi.
I глухою ноччу ён слухае
будучае,
будучае было марай у яго вачах.

# Файад Хаміс

(нар. 1930)



---

## РОЗДУМ У МАЛЕНЬКІМ НУМАРЫ АТЭЛЯ Ў АДНЫМ СТАРАЖЫТНЫМ ЕЎРАПЕЙСКІМ ГОРАДЗЕ

У цёмным кутку старой гатычнай царквы
вісіць на вяроўцы адсечаная шмат вякоў назад
рука злодзея,— адна з незлічонага мноства рук,
якія час не захацеў захаваць. А колькі грахоў —
крадзяжоў, забойстваў, гвалтаў, ерасі і г. д.—
на сумленні ў суддзяў?.. Так думаў адзін падарожнік,
абедзве рукі якога варушыліся, трымцелі на стале,—
так разважаў ён, улюбёны як звычайна
ў гарады, людзей, іх вочы,
якія пяшчотна паглядалі на яго крадком.
У цесным, маленькім нумары атэля
ён спрабаваў уявіць
магчымы спіс звычайных сённяшніх злачынстваў
(кантрабанда валютай, шпіянаж, ігнараванне
ўсіх норм і прынцыпаў
новага, так сказаць, грамадства),
і раптам яму ўбачыліся цэлыя груды рук і ног,
языкоў і галоў, якія пакуль што не адсечаны.
Пасля ў яго маленькі пакойчык пранікла ціха
грымотная арганная музыка,

і транзітны госць —
адзначаны ўжо чалавек — заснуў,
і яму снілася, што ён акружаны
цэлым полчышчам анёлаў і катаў.

## ПАСАДКА ДРЭЎ

Ты выдзёўбваеш кіркай у цвёрдай зямлі
ямку маленькаму тамарынду.
Ты дбаеш, каб кожны саджанец
заняў сваё месца пад сонцам
і цягнуўся проста да неба. Каб не зламаўся
і не загінуў ні адзін тамарынд!
Ты абліваешся потам, ты цяжка дыхаеш,
ты запэцкаўся ўвесь той самай зямлёю,
што будзе жывіць гэтыя дрэвы.
Ты думаеш аб тым, ці ўбачыш іх вялікімі
і ці будуць яшчэ цячы ў тваіх жылах
жыццёвыя сокі,
калі на гэтым месцы зашуміць прыгожая алея
і па ёй будуць блукаць закаханыя,
прагна цалуючы адзін аднаго ў цяні,
які ты стварыў сваімі рукамі.

## СПАДАРОЖНІКІ Ў ЛЕТНЯЙ НОЧЫ

Ён не гаворыць ні слова, глядзіць на яе панура,
здымае пінжак, ухутвае яе плечы.
А яна пяшчотна дакранаецца да яго пляча
сваёй галавой, доўгімі валасамі.

Ён моўчкі глядзіць на яе,
не звяртаючы ўвагі на іншых пасажыраў,
якія быццам інкруставаны ў гэтым душным мроіве.
Ён кранае яе, гладзіць яе рукі,
цалуе яе, вывучае яе,
ён хацеў бы ахінуць яе ўсім сваім нутром,
абмыць яе
ўсёй сваёй крывёю. А ёй то горача, то холадна,
яе вялікія вочы
то загараюцца, то патухаюць,
а аўтобус са скрыпам і фырканнем нясецца ўначы.

## ЧАЛАВЕК З ІСПАНІІ

...людзі гэтых часоў распятыя
на сабе саміх.

Хасэ Марці

Хуан Эскандэл Ферар, матрос з «Баія
дэ Марыэль» [1], сядзіць, нерухомы, на палубе.
Ён глядзіць на ахутаныя хмарамі ўзгоркі Сантурсе,
на бела-чырвоныя будынкі,— пакуль горад
абуджаецца ў халодным Біскайскім заліве.

Хуан Эскандэл Ферар, матрос, сядзіць і сядзіць,
нерухомы.
Крык боцмана падае, як бутэлька
ў ваду.
І вось карабель рушыў, выходзіць у адкрытае мора.
Ззаду застаюцца людзі, дамы, караблі, узгоркі.

---

[1] Карабель кубінскага гандлёвага флоту.

Хуан Эскандэл Ферар, артылерыст Рэспублікі
марудна ідзе на нос карабля (паміж
яго ног
скача, прашмыгвае кот), адно імгненне
глядзіць на шэрую ваду, сплёўвае,
уваходзіць у рубку. Ён не плача.

## ДЗЯЎЧЫНА НА ВУЛІЦЫ «РЭЙНА» [1]

Ты ідзеш перада мной, жвавая, гнуткая.
Вуліца «Рэйна» патрэсквае ад святла.
Я ніколі не бачыў твайго твару, але я ведаю тваё
ўспрыняцце гэтага свету,
што слізгае па маіх касцях.
Раптам ты спыняешся — толькі на міг —
перад дзвярыма,
і ў гэты час я бачу твой прыгожы дзявочы твар.
Ты пачынаеш падымацца па шэрай, стаптанай лесвіцы,
амаль мне знаёмай. Ці ведаеш ты пра тое, што
не так даўно там, наверсе,
магчыма ў тваім пакойчыку,
на тым самым месцы, дзе ты глядзішся ў люстэрка,
перажоўваў свае мары паэт?
Дармо, што ты растварылася ў змроку.
Я думаю, што ты зноў спускаешся ўніз,
прыціскаючы да грудзей
свае блакітныя школьныя сшыткі.
Ты выбягаеш з пад'езда,
і цябе, магчыма,

---

[1] Вуліца Каралевы.

асляпляе не толькі сонца,— вось ты сутыкаешся
з гэтым чалавекам,
які ў сваім шырокім шэрым касцюме
выйшаў пакарыць —
заваяваць — горад: гэта малады паэт
Бараганьё.

## НОВЫ ДЗЕНЬ ЦЯБЕ АСЛЯПЛЯЕ

*Густаву Эгурэну*

Чаму спяваюць пеўні? Які дзень абвяшчаюць яны
горадў?
Праз акно ўваходзіць ззянне
новай сілы,
на рагу спыняюцца аўтобусы, гучыць доўгі
званок тэлефона,
а ты не стаміўся запальваць полымя на зямлі.
Паэзія,
ты слухаеш пеўняў, што пераклікаюцца, нібы вобразы
адной паэмы,
быццам камяні ў скляпеннях цёмнага раманскага
храма,
а ты імкнешся плыць у дзень,
адчуваць хвалі галасоў,
што крычаць у тваім голасе,
збівацца з курсу ў гэтым цудоўным моры,
у бездань якога ты сам плакаў або пляваў,
але якое ты перш за ўсё насяліў бутэлькамі,
якімі ты заўсёды пацвярджаў сваю прысутнасць
на планеце.

Дзень паграджае табе ўсім сваім святам,
цябе акружаюць
гукі
кларнетаў і пахавальных маршаў,
сімфоній і брэху сабак,
цяжкога дыхання заводаў
і смех дзяцей.
Новы дзень цябе асляпляе,
ён асвятляе цябе, нараджае цябе,
спараджае ў зыркім святле тваіх вачэй
кавалкі бясконцай рэальнасці.
Перад тым, як выйсці,
ты павінен прыняць меры засцярогі,
ты можаш сутыкнуцца
з якім-небудзь неасцярожным будынкам.
Ты занадта наіўны і бездапаможны, занадта
эндэмічны і крохкі,
занадта грубы і цывілізаваны перад такой красой.
Ты жывеш ад здзіўлення да здзіўлення, як форменны
індзеец у сурдуце.
Калі ты абнюхваеш газету, то мусіш ачысціцца
ад крыві, ад барацьбы,
ад дзяцей, якія паміраюць таму,
што ім не дастаецца аб'едкаў
са стала багацеяў.

У сапраўднасці ты хочаш прымаць удзел ва ўсім,
чаго не дасягаеш і не падазраваеш,
смаўжы не ўюць свае спіралі на тваім стале,
ігнаруюць курс твайго голасу,
маскіты атакуюць цябе бязлітасна,
без малейшай павагі
да тваёй асобы.
Новы дзень утварае жалабок на тваёй магіле. Свет
зачароўвае цябе.

# Раберта Фернандэс Рэтамар
(нар. 1930)



---

## *З рэчаіснасці*

### 1

Ils furent rois tout une matinée.
Rimbaud [1]

### ТЫЯ, ШТО ЖЭНЯЦЦА Ў КАСЦЮМАХ, УЗЯТЫХ НАПРАКАТ

Утрапёныя,
Забыўшыя
Пра тое, што праз два дні
Усё гэтае княжацкае ўбранне,
Якое суправаджаецца балбатнёй дапазна
І слязамі, прыведзенымі ў якасці доказа пад канец,
Павінна быць вернута, як можна менш змятае
(Абсурдны надпіс аб'явы дзяліў напалам
Вялізную сцяну, і тым не менш!);
І, наадварот, помнячы добра пра тое,
Што праз пяць-шэсць гадзін
Яны ўлягуцца задаволеныя,
Яны ступаюць, непадкупныя, бледныя,
Як пальчаткі.

---

[1] Яны былі каралямі ўсю раніцу *(франц.)*. Рэмбо.

Яна,
Трудная і ахоўваемая;
І ён,
Шчаслівы, хаця яму не змаглі поўнасцю
Падагнаць пінжак на спіне
І ў плячах ён яму крыху цісне.

2

Заўтра мы вам адчынім.
Лопэ дэ Вега

## ГРОМ-СЯБРА

Накульгваючы на маланку, ён позна
папярэдзіў мяне,
І белая перастрэлка
вяла мяне больш ці менш
(Менш)
Да паскалевых страхаў у той час,
Як я бег пад дажджом
Па дарозе к дому, які саступаў убок,
Каб даць прайсці тлустай рыторыцы
Манумента, дзе некалькі сеньёраў
І адзін прэзідэнт цярусяць у поўдзень.
Прадбачлівы, пабляднелы свет
Раз-другі папярэджваў мяне,
Каб я ведаў.
І тым не менш,
Калі я, прамоклы, дасягнуў лесвіцы
І ўздыхнуў з палёгкай,
То забыў усё.

## ДРУГІ

### (1 СТУДЗЕНЯ 1959 ГОДА)

Мы, перажыўшыя другіх,
Каму мы жыццём абавязаны?
Хто за мяне загінуў у засценку?
Хто кулі той, што цэліла ў мяне,
Падставіў сваё сэрца?
Над кім з загінуўшых схіляю галаву?
Чые ў сваіх касцях я косці адчуваю?
І чые выкалатыя вочы
Глядзяць на свет праз мае вейкі?
Чыёй рукой — чужой жа, не сваёю —
Пішу я словы гэтыя падраныя,
Я з тых, хто перажыў памерлых?

## ПРАГУЛКА ПА ЛЕНІНГРАДЗЕ

Гэта не белая ноч,
Але без чвэрці адзінаццаць неба
яшчэ блакітнае
(О, божа, яшчэ блакітнае?)
У гэтым ліпеньскім Ленінградзе.
У цэнтры парку
Моўчкі вяшчае Пушкін,—
З крысом, адкінутым тым даўнім ветрам,
Бронзавая рука намякае на верш,
Яго твар — твар мулата, наш твар —
Горды.
Цудоўны.
А ў гэты час ластаўкі снуюць увышыні.

Учора, натуральна, ён зноў наведаў
Піскароўскія могілкі,
Дзе пахаваны тысячы безыменных ахвяр
Пад музыку Чайкоўскага
І вершы Вольгі Бергольц.
Каля ўваходу,
Быццам сляды раненай галубкі на снезе,—
Святыя словы Тані заўсёды ў слязах.
А выходзячы на зыркае сонца поўдня,
Ён падумаў: гэта, апрача ўсяго іншага, праўда,
Што мы, нібы злодзеі, падзялілі паміж сабой
Дзівосны скарб дзён і начэй
(Ясныя дні і светлыя ночы).
Па Неўскім праспекце
Ідуць інтэрнацыянальныя пары:
Манголка, якую падтрымлівае яе бландзін,
Азербайджанец са сваёй масквічкай,
Нарвежцы і фіны, а таксама ленінградцы,
І яшчэ двое глуханямых, якія крычаць
Сваімі рукамі і хваляванне якіх
Будзе хутка суцішана ноччу, пацямнелай нарэшце.
Аб кім думаць, калі гуляеш
З вялікай занадта колькасцю гарэлкі ўнутры?
Быць можа, ён болей персанаж, чым чытач,
беднага Дастаеўскага?
Проста зачаблены сюды жорсткай крывёю
яго герояў,
Ён ідзе гэтай празрыстай ліпеньскай ноччу
Сярод закаханых, з'яўляючыся вечным гледачом,
Нежаданым адзіночкай,
Які перагаворваецца са сваімі мёртвымі паэтамі
Сярод такога жыццёвага віру,
Сярод такой безлічы ілюзій,
Сярод іншых самотных мужчын і жанчын,
Якія, як і ён, чакаюць нечага.

# Пабла Арманда Фернандэс

(нар. 1930)



## ТОЕ, ШТО Я ВЕДАЮ

Я, хто гаварыў на тысячы моваў,
ведаю спагаду, якая жыве ў словах:
дробны дождджык, прытулак, бальніца, паўзмрок.
Я ведаю смутак,
які гэтыя словы нараджаюць у душы.
Ведаю боль пазнавання маркотнага чалавека.
Не можа не быць усё гэта вядома мне,
хто быў бедны, чужы, пануры.
Я ведаю яшчэ, што трэба скарыцца там,
дзе бяссільная мальба,
скарыцца ў такой ступені, каб ачысціць кроў,
зрабіць яе празрыстай,
адчуць яе на вачах як слязу,
ачысціцца так, каб можна было смела
паглядзець у вочы нявіннасці.

## САБІНА

У адносінах да мяне
заўсёды знаходзіліся добрыя людзі,
якія спрабавалі мяне шантажыраваць.

Першы быў мой бацька.
А потым пастар,
які яшчэ дзяўчынкай
прагнаў мяне з нядзельнай службы.
Я так і не навучылася маліцца.
Я так і не скончыла школы.
А вулічныя хлапчукі
абыходзіліся са мной,
як з дурнічкай,
хаця ім і спадабаліся
мая тонкая талія і востры язык.
Я не зрабіла кар'еры ў дансінгу,
я разлівала содавую ў Вулворце
і была капельдзінерам у кінатэатрах.
Я столькі разоў раздзявалася дагала,
столькі разоў мой язык і мая талія
прыкідваліся нявіннымі,
што ў выніку страціла ўсё,
у тым ліку і ўменне прытварацца.
І вось, крыху паправіўшыся,
я пішу ў бальніцы пісьмы хлопчыкам,
што паміраюць на берагах Ціхага акіяна.
Яны, гэтак жа як і я,
не змаглі пазбавіцца ад шантажыстаў.

* * *

У цёмным сваім кутку
гуляў з павукамі хлопчык.
Мурашам яго тонкія ножкі
здаваліся вялікімі слупамі,
у сваіх кулачках

ён трымаў скарбы,
якіх ніхто ніколі не бачыў.
У пяшчоты колер сумна-цьмяны,
яго нават цяжка назваць колерам,
і яна, пяшчота,
якой зразумелая мова дзяцінства,
села побач з хлопчыкам,
і яны сталі разам гуляць.

# Раберта Бранлі

(1930—1981)



## *Заўсёды жыццё*

### 2

Не толькі думаць,
але і ўступаць у барацьбу,
завязваць у поўным узбраенні бой
з лянотай:
супраць фальшывага начнога няспання
таго, хто ніколі не прачнецца
ад штодзённага цуду
гісторыі
і ў каго ўсякі раз аказваецца
ўсё больш месца дзеяння ўнутры,
пакуль ён не ператворыцца ў мармуровага,
з вечна бяссоннымі вачыма.

### 3

Не гаварыць — гаварыць,
а ісці наперад распяваючы
на ўвесь голас сярод гімнаў

вечнай пары года
і пераскокваючы цераз страх
у памяці,
пераходзіць уброд кроў іншых часоў,
пахаваных водаваротам,
які аб'ядноўвае і цвёрда прывязвае нас
да адзінай дарогі
будучага.

## 4

А расці без рыторыкі,
без таго, каб словы ўзнікалі,
як цёмныя плямы
ці кляксы,
каб запляміць бляск
ці найчысцейшае святло
ідэй,
якія ўраз нараджаюцца
і ўзыходзяць
з зарой.

## 5

Такім чынам, апяваць
шчасце, любоў,
ачышчаных ужо
ад сваёй адчужанасці
у звычайным жыцці,

якія ўздымаюцца,
як дэвіз
новых эпох,
развяваючыся на ветры
ў люстрах,
як чырвоныя зоркі
часоў.

6

Выйсці,
запець, ісці
сярод полымя кавальскіх горанаў:
менавіта тут,
як у слове,
разгортваецца бясконцасць
перад заўсёды маладым воблікам
верша.

---

## ГАЛАКТЫКА 207 : 45

*Мігдаліі*

За шэсць светавых гадоў ад выбуху часу —
таго самага, што лучыць, кранае і пранізвае нас,—
калі спачатку мы, любая,
абдымалі рукамі, нутром, артэрыямі
прастору, якая ледзьве ўмяшчаецца паміж двума снамі;
за шэсць дэкадаў ад стрыманай ласкі,
дзе вясна — гэта скрынка з надзеямі,
у той час як ілюзія ператвараецца
ў жорсткім акце красы;

за шэсць вякоў ад аб'яднання ў групу ўспамінаў
пад целам з брызу і акіянам зорак,
аб'яднаных у сузор'і штодзённымі справамі;

за шэсць тысячагоддзяў ад пяску, спеву пляжа,
стомленай расы ў цукровых трысцінках
і мармуру, ператворанага ў чорны пыл, там, уначы;

за шэсць эпох унутры вечнасці, любая,
на які вобраз будучага спраецыраваць нам сябе,
каб утрымаць, як крышталь, нашу аднолькавасць,
наша сумеснае, вернае існаванне
і ў той жа час захаваць
распаленую да чырвані халоднасць?

Ты і я, непаўторныя,
плаваем унутры нашага вялізнага шчасця,
мы адзіна магчымыя, і ў поўную таямніц мову,
што адкрылася нам,
мы ўнеслі нашу маленькую ды агульную гісторыю,
дабавілі яе ў жахлівую паэму без слоў —
паэму жыцця.

# Хасэ Марцінес Матас

(нар. 1930)



---

## ВОБРАЗ ДЗЯЦІНСТВА

ПАСЁЛАК ПУЭРТА-ПАДРЭ

У тыя хвіліны, калі ніхто не шукае ценю,
Адзінота наплывае на гэты пасёлак.
Я блукаю па вуліцах са сваімі ўспамінамі,
Я не магу іх пакінуць дома.
У цішыні раве мяккімі водамі мора.
Купка пальмаў тупае да вытокаў ракі.
У мроях самотны хлапчук адплывае за караблямі,
што патанаюць у апошніх водблісках сонца.

## ПРЫХОД ВОСЕНІ

Восень прыйшла, і вецер лістотай
Шапоча ў маё акно.
Юнакі і дзяўчаты, як шумлівыя птушкі,
Запаланілі праспекты і плошчы,
Запоўнілі люстры вітрын.

Хто там б'ецца ў глыбінях,
Што за ноч раскрылена марай цудоўнай,

У вачах што за боль пякучы,
Хто так лёгка імчыць у вадзе, што за след
І што за дзіця ў промнях сонца спявае?

Хто дае нам параду: «Восенню залатой
Мы зноў усё вернем назад»?

Хто так іграе чароўна:
Вецер, вада ці сама першароднасць?
Што за сіла кідае ў жыццё нас,
Што за вера сляпая ў існасць?

Як мяшок з непатрэбным цяжарам,
Я скідаю з сябе чалавека ранейшага,
І, абноўлены, змогшы стому начную павек,
Я выходжу на вуліцу, згараючы ад кахання.

І я толькі сказаць хачу,
што іду па агні — не па лісцях.
І што полымя з дрэў перакінулася на мяне,
Што восень пяшчотная, і я малады —
Не памёр пад цяжарам гадоў.

## АНТЫІДЫЛІЯ

Старажытны пах трыснягу, слодыч яго надлому
І паўдзённая горыч — мне знаёмы даўно.
Я ўставаў да світанку
І сустрэцца ішоў з трыснягом, абіваючы росы.
Я любіў яго цела — вільготнае, грубае,
Што ад беднасці вылечыць нас не магло.
Я ненавідзеў наглядчыка,
яго брыль з палямі шырокімі,

Што вочы хаваў, яго брудныя зубы
І ўсмешку, з якою ён важыў трыснёг.
Я ненавідзеў гаспадара, што выпісваў квіткі —
тры памылкі на слова,
Я ненавідзеў яго кароткія вусікі, скуру,
Адпрасаваныя — палец парэзаць — штаны,
Я ненавідзеў яго дачку і пагарду,
з якою на нас глядзела яна.
Я ненавідзеў крамніка, яго ільвіную лапу,
Што грабастала рыс, тлушч і цукар.
Я ненавідзеў дом буржуя, яго аўтамабілі,
Яго туфлі, шкарпэткі і пах буржуйскі,
Яго цукровы завод,
што гудкамі ў поўнач лямантаваў.
Ды нянавісцю ўзрушыць нікога не мог чалавек,
Якому было ўсяго толькі дзесяць гадоў.

## ВАЛЫ І ЛЮДЗІ

Як чужы, уваходзіў я ў гэтыя таямніцы,
Назвы траўныя запамінаў і зёлак гаючасць,
Тайну галубкі і варыяцыі для скрыпкі коніка,
Смак салёны крыві з потам.
Колькі начэй — пад поўняю — мы секлі трыснёг,
А потым, на світанні, кідаліся ў рэчку...
І якая розніца тут была — між валамі і намі?

# Хасэ Альварэс Браганьё

(1932—1962)



---

## ГІМН МІЛІЦЫІ

1

Пішу:
Кусаю шэрую вяроўку слова
З'яўляецца чорная маланка паэмы
З якіх сетак з'яўляюцца яны?
Ведайце і помніце асуджаныя
Чалавек гэта не прыметнік
У мове вайны
Тыя хто хочуць забіваць
Ці ведаюць яны што такое смерць?
На масляным вале і на сценах шахты
Тваё рукі таварыш пішуць
Абрад любові і прыгажосці
Рэкі і народы растуць пад бурай
Насустрач зары што не ведае сноў
Наша зброя лёгкая і халодная
Прабівае туман.
Смерць гэта не скачок у пустату:
Гэта выступ зары
Каштоўнасць якая крываточыць
У грудзях народа.
Адкуль яны з'яўляюцца

Тыя хто хоча забіваць?
Ці заб'юць яны сваю ўласную смерць:
Тую што мы ім дадзім?

2

Мы звяжам белую сетку
І будзе нітка гарэць
Распаліўшыся дабяла ад любові
У нашым рукапашным баі
З чалавечай смерцю
З нашым нябытам што працягнуўся да славы
Зялёны інструмент жыцця
Гэта не жалезная палка якая збівае
Пажаўцелае лісце.
Ворага які захлынуўся ў сваёй гнілой крыві
У сваіх сарака васьмі зорках [1] рвоты
Нашы словы такія ж як і нашы інструменты
Яны не ад будучага яны будучае
Што ператварылася ў вогненны гарпун
Сярод нас...

3

Я мілісьяно [2]
Ты мілісьяно
Мы мілісьяно зары і сэрца!
Наш позірк рэвалюцыю бачыць
Бяздоннай і бязмежнай
Абвеянай ветрам які спяваць імкнецца
Ніхто не ведае дзе сальюцца гэтыя рэкі
Наша кроў пульсуе без супыну

---

[1] Відаць, маецца на ўвазе амерыканскі флаг.
[2] Баец народнай міліцыі *(ісп.)*.

Узнімаючы да вышынь свабоды
Парыванне народа
Народжанае ў глыбінях сэрца.

4

Замест майго «я» тваё «ты»
Моцнае як сталь
Лямпа
Сонца пераспелых фруктаў
Сыходзяцца нашы рады
Знітоўваецца паветра
Нашай праватой
Уздымаюцца гімны і змагаюцца
У палаючай грыве
Любімай Рэвалюцыі
Празрыстай як лета.

# Рауль Луіс

(нар. 1934)



---

## БЕЛЫЯ КРЫЛЫ

Запальваючы цыгару ў вадзе
да смерці.
Дазваляючы пеклу падаць
на туманныя грудзі.
Глытаючы разам з дымам ціхамірныя вобразы,
збіваючы Нептуна на памосце.
Ды вечару не стае, да пустаты, рук,
і за спіною ночы скачуць чырвоныя каты.
Я хаваюся ў зары, дзе спяць вярблюды,
слухаю скавытанне матылёў,
адчуваю зябкае рыданне і холад
насякомых, і холад ног,
што наступілі на зорку
з зялёнымі крыламі і халоднымі снамі.

## СІНТЭЗ

Страказа,
якая завязла ў гразі.

Бясплодная і анахранічная;
архаічная,

зменлівая,
запальчывая.

Як камяні, што ляжаць ніцма.
Без успышкі
святла.

Адваротны бок зоркі,
Супрацьлегласць кветкі.

Толькі калючкі ўнутры.
І яд на павеках.

## УНАЧЫ

Уначы я пагружаюся ў роздум.
Горы вырысоўваюцца на небе,
зацягнутым злёгку аблокамі.
Пануе пакой уначы і ў маёй душы,
толькі зрэдку цішыню парушае
сабачы брэх. Шолахі ў цішыні —
гэта плынь самога жыцця,
і мяне ахоплівае водар сусветнай ночы.
Вецер гуляе ў маіх валасах
і адлятае, і ніщто не трывожыць цішу.
Маці-зямля, маці мая, гэтай ноччу
я спасцігаю веліч прыроды,
я гляджу ёй у вочы,
і яе таямнічая ўрачыстасць
хвалюе і палохае мяне.
О, маці, адвечны спакой

у глыбінях істоты маёй,
і я задаю сабе пытанні, я гляджу, і нішто,
нішто не набліжае мяне да тваёй велічы.

## ТОЕ, ШТО ЗАМОЎЧВАЕ ЗАБЫЦЦЁ

У страшнай ночы тваіх вачэй мігцелі
знічкі, сузор'і і галактыкі.
Ты бачыў, як абваліўся гэты неўміручы небасхіл.
Ты бачыў, як дзіця бегала па траве,
падала, уставала і смяялася.

Ты бачыў, як па лузе прайшоў чалавек
і не вярнуўся;
і ты хацеў бы адчуць
вільгаць у сваіх вачах.

Ты стаў бы апяваць не ўспамін аб адной жанчыне
(я сказаў), а след, які пакінула яе каханне
ў тваёй душы.

У тваіх вушах (што замоўчвае забыццё) адгукаліся
гул навальніц
і глухія шумы зямлі.

Папаўднёвы брыз, мімалётны пах,
нечаканы палёт пчалы
дакрануліся да твайго рота,
які зямля абавязвае маўчаць.

Твае бледныя рукі дакрануліся да свяшчэнных сфер,
яны стваралі і спустошалі.

Тваe ногі прайшлі па голых стэпах і гарах,
цераз падзямеллі і лабірынты,
асляпляльнае святло і жахі ночы.

Тваё цела мільгнула,
як блік на імклівай конніцы.
Твой воблік глядзіць з няспання і сну,
з прыцемкаў і цемры.

І ў страшнай начы тваіх вачэй ты —
згубленая планета.

# Ота Фернандэс

(нар. 1934)



---

## МЫ ПАВІННЫ СКАЗАЦЬ

Мы павінны сказаць
імкнучыся наперад, сказаць:
Першы клопат у нас — аб старых,
бо тупое падміргванне смерці,
твар драўляны яе прыкмячаем
мы ў іхніх вачах.
Бо над іх галовамі смерць кружляе,
і азбуку страху
мы чытаем у іхніх вачах.
Першы клопат у нас — аб старых,
бо жыццё ўжо даўно спарахнела
у іх дзяснах, у іхніх вачах,
што разгледзелі зблізку бяздонную адзіноту,
якая рассыплецца пылам вось-вось.
Першы клопат ў нас — аб старых,
аб іх венах ліловых, іх штучных зубах,
што на ноч апускаюць у шклянку,
аб супах перацёртых, аб касцях
ломкіх, як у дзяцей.
Першы клопат заўсёды ў нас — аб старых,
бо сваімі гадамі
яны змусілі змоўкнуць жыццё.

# КАБ УРАТАВАЦЬ МАРЫЮ

*Элісеа Дыега*

З зарослага цёмнага саду,
дзе гнуткіх галін калыханне,
прыкульгвае ціха Марыя
увечары, на змярканні.

Нясмелыя крокі Марыі,
сукенкі белай мільганне,
бабуля ў старых акулярах
увечары, на змярканні.

Марыя з пахучым язмінам,
старая ў дрымотным маўчанні:
я, мяч і бейсбольная біта
увечары, на змярканні.

Марыя прыводзіць дзяўчынку,
занятую нудным вязаннем,
я толькі гляджу ў яе вочы
увечары, на змярканні.

Няма ў маёй біты нікога,
а ў мілай дзяўчынкі ёсць пані,
я толькі ёй вочы цалую
увечары, на змярканні.

Выходзіць нячутна Марыя,
чарнеюцца клумбы герані,
самотныя крокі і вецер
увечары, на змярканні.

Марыя кульгае і плача,
нічыім ужо мяч мой не стане,
сціхае ўсё і памірае
увечары, на змярканні.

## НОЧЧУ

Вось зараз,
калі ноч распасцерлася
і заціхла
і калі на нябёсах абвялі
пялёсткі завей,
у калысцы сваёй
з запацелага крышталю
скурчылася ў камячок
далікатная цнота
шэрані.

# Луіс Суардзіяс

(нар. 1936)



## CLOSE-UP [1]

Кожную раніцу ў восем гадзін
яна з'яўляецца на службе,
як зграбны збан з духмянай гліны.
Аглядвае свае няўзброеныя сілы
без належнага ў войску пастраення,
умешваецца ў кожнае рашэнне,
лашчыць доўгія сталёвыя картатэкі
і абвяшчае «шах» рахманаму сэрцу мужоў.

Яна нечакана з'яўляецца ў ліфтах,
у прыёмных спрытных сакратарак
і сеньораў выдатнага выгляду, уключае і выключае
ўсмешку, разгортвае ружы, паднесеныя з выпадку,
папраўляе блакітную стужку ў валасах і ўліваецца
ў прамудрае войска рахункаводаў, статыстыкаў,
дзялкоў усемагутных, машыністак...

Яна набірае свой хатні нумар
пад вялізным гадзіннікам,
ухіляецца ад заляцанняў, прапазіцый, ад ласкавых

---

[1] Зачынена *(англ.)* — бірка ў крамах і іншых месцах агульнага карыстання, звычайная на Кубе да Рэвалюцыі 1959 г.

кінцюроў сяброўскіх і знаходзіць прытулак
пад прагнай «Р»
аўтобуснага прыпынку,
як зграбны збан з духмянай гліны.

## ПЕСНЯРЫ НЕ ЗАХОДЗЯЦЬ ДА НАС

*Памяці камандантэ Паса*

Рамон Пас Барота, твая вінтоўка напагатове.
Гады прайшлі. І ты з імі.
Ты ўва мне гутарыш і спяваеш. У кішэні —
пакарочаны кольт, з табою — Надзея.
Твая мама вучыць мяне чытаць. Хлапчукі
гуляюць у хованкі. Грымяць паязды.
Твая сястра сцірае пыл з вазонаў.
Песняры ідуць па вуліцы Расарыя. І ты з імі.
Дзесятага кастрычніка, паліцыя ў белай апратцы.
Мы бачым Хрыстову працэсію. Жандар
страляе. Цясляр падае на брук.
Шэсць шэрых коней жалобы.
Плач неграў.

Твой конь — на самай высокай вяршыні.

Аднойчы цябе дагналі кулі. Мама
ўжо не жыве на Расарыя.
Песняры не заходзяць да нас.
Бачу — ты стаіш. Спяваеш.
Цябе даганяюць стрэлы.
Рамон Пас Барота... Гады прайшлі...

## НІБЫТА ХТОСЬЦІ

Нібыта хтосьці, хто вярнуўся з далёкай вандроўкі,
я прытульваюся да жонкі.
Хачу ляжаць, адчуваць яе побач.
Кожны раз вяртаюся з больш далёкай вандроўкі.
Яна спіць.

Цяпло растварае стому пад коўдрай.

Нібыта хтосьці, хто дайшоў праз стагоддзе
да за́мка, дзе згодна з легендай спіць
дзяўчына з доўгімі валасамі,
і стрэсваю пыл, кідаю свае паперы
і лажуся побач з ёю.

І не перабіваю ёй сон.
Я стрэсваю цяжкі снежны пыл, скідаю
міражы зімовыя, каб прытуліцца
побач з яе водарам і нават нешта сніць,
адчуваць яе цяпло,
нібыта хтосьці, хто вярнуўся з далёкай вандроўкі.

# Мігель Барнет

(нар. 1940)



## ТУЛА

Усю ноч я правёў
Пераглядаючы лісты
І забытыя фатаграфіі.
На адной з іх мая бабка,
Крыху заслуханая ў спеў птушак,
Купаецца ў рацэ.
Яна раскінула рукі, як вар'ятка,
І смяецца,
Больш нічога,
Толькі кавалачак сонца
У куточку
І некалькі чорных галінак і лістотай
За ёю,
Нават ветру няма,
Які мог бы ўзвеяць
Сваімі крыламі ястраб.
Тут многія рэчы
Хаваюцца ў целе,
У вуснах,
Якія здраджваюць прыгоды яе маладосці.
А гэтыя рукі ў паветры,
Як нейкая мара
Або спадзяванне, якое вярнулася свету.

І час дакарае
За тое, што ён,
Варты жалю,
Застаўся забыты,
А ноч зноў вяртаецца
Ў пахах зямлі.
Звяртаюся я да старой фатаграфіі бабкі,
Да тых год
Без маршчынаў на твары яе
І чытаю:
«Актавію
з нязменнай любоўю.
Тула».

## СТОЛ НАКРЫТЫ

Стол накрыты.
Бацька здаецца
Чырвонаю плямай, якая
Усё робіцца большай і большай,
У трызненні за ім сочыць маці,
Аж пад столь уздымаецца
Чад алкагольны,
І бацька, зусім ахмялелы,
Пяе пра старую любоў,
Пра начную атаку,
І белыя коні
Бягуць па ягоных вачах.
Не знаю, ці мне шкадаваць яго,
Ці праклінаць,
Бо, прызнацца, не знаю
Ці то ён ад шчасця пяе,
Ці ад гора.

## РЭВАЛЮЦЫЯ

Калі настала Рэвалюцыя
Натоўп мой дом запоўніў
Здавалася ён пераверне ўсё
Стол шафу кош з жыццём.

Настаў канец ранейшаму маўчанню
Забыла бабка пра свае ўспаміны
Расказваць пра даўняе
І пець.

Я ж абнадзеены не мог не ўбачыць
Як у пакой ўліваецца святло
Калі ўпершыню акно ў свет
Расчыніла маці.

## РАДЗІМА

Я не магу далей чакаць
Я гаварыў і зараз паўтараю
Што з кожным днём
Я больш і больш люблю свой вецер
шумны

І гэты дом што бачаць мае вочы
Які змагу абараніць
І цень ліяны
І зямлю
Але гэта не ўсё
Пачуеце вы зараз і мой голас
У агні загартаваны
Пытаецеся пра мяне
А мне здаецца гутарка ідзе

Аб некім маім блізкім
Я з сэрцам у ладах
І знаю ў маім краі маіх паселішчах палях
Ёсць сіла гэткая як вецер
Гатовая абараніць жыццё.

## ЁСЦЬ ЛЮДЗІ

Ёсць людзі як і мы
Што ўсё сваё жыццё то славяць то клянуць
То ў цёмных калідорах
Самі з сабой гутараць
Бяруць таксі
Скардзяцца ядуць
Гавораць што жыццё жахлівае або цудоўнае
Не чытаюць вершаў
Але ласкаюць стан і валасы
Людзі якія пажыраюць Біблію
Магчыма
І Камуністычны Маніфест
Аднойчы падымаюцца
І з грукатам
Б'юць кулаком у дзверы
З чуласцю і з болем
Паміраюць
Каб рэвалюцыя не аказалася гарой паперы
А працягвалася далей.

# Нансі Марэхон

(нар. 1944)



---

## ПАЎДЗЁННЫ РОЗДУМ АБ ТЫХ, ШТО ПАЛІ НА ПЛАЙЯ ХІРОН

Вораг і яго супольнікі,
Панурыя, сцюдзёныя, як небяспечныя багі,
Убачылі маладога ў берэце кубінца
У мангравых кустах Плайя Хірона.

Яны ўгледаліся ў туман
І ўжо, хаваючыся ад справядлівасці,
Свіснулі пугачу, які садзіўся
На ствол
Вінтоўкі
Мілісіяна.

Сёння сонца заходзіць у кантору,
Схіляючыся над сваёй машынкай,
Якая піша мемуары і даклады,
Другі чалавек трымае ў руках успаміны.

Усё было патрэбна
Закаханаму ў будучыню
Юнаку,

Які паў на зямлю,
На гэту зямлю,
Якую ён, як ніхто,
Пільнаваў і аберагаў у сваіх
Запаветных марах.

## УРАЖАННІ

Ад сцюжы стынуць ногі,
Аж дзіва, што спяшаецца
Нарадзіцца ружа.
Мы на дваццацідвухкіламетровым канале,
І старонкі сусвету
Кружацца з цяністымі
Лістамі фламбайана,
Закаханыя хаваюцца ад сонца
На дне яхты
І дыхаюць паўдзённымі
Павевамі марскімі.
Падзьмуў нясмелы брыз,
І мы плывём у вечнасць.

## НЕГРЫЦЯНКА

Я ўсё чую пах акіяна, які была змушана перасекчы.
А вось ноч,
Ды і сам акіян не магу нават і ўспомніць.
Але мне не забыць першага алькатраса

І высокія хмары — наіўныя сведкі ўсяго.
Магчыма я яшчэ не забыла радзімы сваёй берагоў
І мовы бацькоў.
Мяне тут пакінулі, тут я жыла.
Працавала, як тая скаціна,
І тут нарадзілася зноў.
Праз пякельныя мукі ішла.
Я паўстала.
Яго Міласць купіў на базары мяне.
Яго Міласці я вышывала мундзір,
Хлапчука нарадзіла.
Хлапчука без імя.
Яго Міласць забіў нейкі бездакорны лорд.
Я бадзяцца пайшла.
Вось на гэтай зямлі бізуны і пабоі зазнала.
Вёсламі перамерала даўжыню яе рэк.
Сеяла і збірала ўраджай, толькі есці не ела.
Домам стаў мне барак.
Я сама з камянёў збудавала яго
І, аднак, пела так, як пяюць мае родныя птушкі.
Я паўстала.
На гэтай зямлі дакранулася я да гарачай крыві
І струхлелых касцей людзей гэткіх, як я,
Якіх сілай прывезлі сюды, як мяне.
Я ніколі сабе не ўяўляла дарогі ў Гвінею.
Хоць не помню, ці край мой Гвінея? Бенін?
Можа, Мадагаскар, можа, Конга?
Яшчэ больш стала я працаваць,
Лепш складаць сваю песню спрадвечную,
Песціць надзею.
Тут свой свет збудавала.
У горы пайшла,
Дзе знайшла незалежнасць сапраўдную
Ў лагеры беглых рабоў
У атрадах Масеа.

Праз стагоддзе пазней
Са сваімі нашчадкамі
З сініх круч С'еры зноў я спусцілася,
Каб пакончыць з буржуямі і генераламі,
Ліхадзеямі і гандлярамі.
Зараз я чалавек: толькі сёння мы ўсё маем
І ўсё ствараем.
Усё блізка і дорага нам.
Гэта наша зямля,
Наша мора і неба,
Дзівосы і чары.
Бачу, кружацца ў танцы такія ж, як я,
Вакол пасаджанага намі дрэва для камунізму.
Ужо чутна, як гулка звініць яго ствол.

# Элісэа Альберта

(нар. 1951)



---

## ДОННЯ БЕРТА ІДЗЕ ЗНОЎ З КВЕТКАМІ СВАІМІ

Урачыста ідзе мая бабка, несучы свае кветкі.
Яна ведае толк у салатах і розных саленнях.
У дзяцінстве яе разбудзіла аднойчы сяброўка,
Напалоханая самаходнай, без коней, карэтай.

Вось ідзе мая бабка алеямі парку і кажа:
«Гэта кветкі для нашага дома»,
І спяшаецца, каб яе не перанялі асвянкі і пчолы
На сцяжыне, якая яе быццам промень вядзе.

Так у кожнае свята яна,
быццам маршал пасля перамогі ідзе,
Быццам свет пакарыла сваёю дзівоснай пакупкай —
Танных кветак букетам — вось гэта жанчына!

Чула туліць букет яна ад красавіцкага ветру
І клапоціцца,
як аб малым і такім кволым, як і сама.

З захапленнем яна
Ставіць з кветкамі вазу ў пакоі,
Дзе ніяк не асмеліцца з светам расстацца стары.

Ставіць кветкі,
Апошнія кветкі апошняй нядзелі,
Амаль сотню гадоў яна прагаравала
І ўсё ж смутак яе не адолеў.

## ЦЁПЛЫ ХЛЕБ

Ёсць цёплы хлеб.
Ён дыхае быццам жывы.
Яго крошкі,
Як перлы з ракушкі.
Цёплы хлеб
На стале ў час абеду
Чакае.

Яго мука, такая родная мука!
Нават дзень папрасіў, каб пазычыла белі яму.

Бачыш, простая рэч.
Ён — маё абуджэнне і сонца яды,
Напаўняе мяне сваім пахам
І спакоем,
Які дорыць мне хтось
І назваць сваё імя не хоча.

Ёсць цёплы хлеб
У пятнаццатую нядзелю года.
Простая рэч, ты бачыш.
Я — пекараў друг,
Таму мы і падзялілі нашу прафесію:
Ён замешвае хлеб, які натхняе мяне,
А я замешваю словы ўдзячнасці за яго хлеб.

## НОЧ

Ноч звычайная,
Быццам камедзі лісток,
На якім паўзе круглы мураш.
Так падобны ў сваім адзіноцтве
На нейкі касмічны аб'ект.
А целам —
На сон таямнічы.

Ноч —
Люстэрка вачэй,
Тваіх цёмных вачэй, у якіх засынаю.

# Вальда Лейва Парталь

(нар. 1943)



## НА ЎСХОДЗЕ АНГОЛЫ

Зараз,
калі я ўстаю
і да іншай кропкі бягу з карабінам,
каб залягаць і страляць бесперапынна,
зараз,
калі з зямлёй зліваюся насцярожана,
чакаючы выбуху снарада варожага,
зараз,
калі побач праходзіць
лінія наступу агнявая
і смерць узрывае
камяні і паветра
ад мяне ў двух метрах,
зараз,
калі і мяне, і дасвецце
перапаўняе адвага,
прачынаюцца мае дзеці
ў Сант'яга.

## ДА ВЫЗНАЧЭННЯ ГОРАДА

Калі адшукаеш хоць адзін камень,
якім бы ворага не сустракалі,
калі адшукаеш вуліцу,
што не зведала болю,
якой бы ніводзін герой не прайшоў ніколі,
калі са стромы
не ўбачыш выраз мора знаёмы,
калі адшукаеш акно хоць адно,
якое б ніколі марамі
не адчынялася перад гітарамі,
калі не адшукаеш дзвярэй адчыненых,
тады сказаць будзеш мець магчымасць,
што Сант'яга не існуе.

## САНЕТ

Ласкавасць глогу, стрыманасць крушыны,
Камагуэя плыннасць і савана,
паветра, што ўздымае ранне рана
маркотай шэрай вечнай пуцявіны.
Дарогі, як баразны, як маршчыны
саваны, дзе пяскоў жуда схавана,
па іх штарання вол ідзе рахмана
між жаўтазеллем і крушынай ва ўспаміны.
Там бацька мой спяшае да сядзібы,
ідзе маё маленства да лагуны,
там азарылі дзён далёкіх шыбы
забытага маленства выраз юны.
З лагунай знік мой вол ласкавахібы.
Цяпер далёка бацька ад сядзібы.

# Давід Чэрысіян

(нар. 1940)





Калі ты зразумееш жыццё
як справу
дзе важнейшае самае
проста ўдзел
дык па-свойму
ты вецер тады назавеш
будзеш сумны
а можа
вясёлы
магчыма
пражывеш непрыкметна
між нас
або ўладнай рукою
акрэсліш
новыя
рэчышчы рэк.

Не пакажа ніхто табе
сёння
дарогі
па якой
да апошняй сваёй адзіноты
непазбежна ты пойдзеш

нават калі
ты ў паветра сабе адабраў далягляды
нават калі
імя тваё
ў сваіх словах я пакінуў.

* * *

Асвятлі свае вочы здзіўленнем
утрапеннем
перад бурнаю дзеяй
што віруе навокал
і напоўнена сілай
якой ты не зведаў
дагэтуль
і якая нясе табе
тайны
канцэнтрычныя лікі
што кладуць
свае доўгія цені
на твае краявіды
вясёлыя і заманлівыя
якія [illegible] вады вырастаюць
і з зерня.

* * *

Ён стаіўся за агароджай таго,
што толькі заўжды здавалася садам.
Ён шукае цябе. У паўзмроку гарышча
так тужліва гучна рыпнулі ўсходы.

Ты яго не забыў, не здолееў забыць.
Ты хаваешся зараз у цёплых
накрухмаленых прасцірадлах, цыкады
ахоўваюць цябе пад кожным акном.
Свет — вось гэтая ўсемагутная ноч,
што абмінае твае летуценні:
лапік гуайявы з лімонамі па краях,
казачны феерверк-палёт светлячкоў.
Але ты ўстаеш, абуваеш пантофлі.
І тады пераскоквае ўвесь наш свет
праз зацененую агароджу таго,
што заўжды толькі здавалася садам: твайго дома.



Жыццё свой звычай пацвярджае зноўку:
як толькі рэч малая з моды выйшла,
яна ўступае моўчкі месца іншай.
А ў той свае сімпатыі. Ад шоўку,

што апранаў вясковае вяселле,
застаўся толькі дотык, толькі водар
і памяць — нібы галубкі, што воддаль
на посудзе фарфоравым паселі.

На сметніку знайшоў я мяч разбіты
і лялькі растрыбушанай галоўку,
веласіпед трохколавы забыты.

Няма ўжо тых, хто ўспомніў бы аб шоўку,
аб адзіноце з адышоўшым бытам:
жыццё свой звычай пацвярджае зноўку.

# Луіс Рахелія Нагерас

(нар. 1944)



---

## НАЧНОЕ КАФЭ

*Файяду Хамісу*

Жан Нікаля Арцюр Рэмбо
і Карл Генрых Маркс
гэтым летам спаткаліся ў Лондане,
у тым самым кафэ,
дзе адвячоркам 1873 года
скрыжаваліся іх пуцявіны,
а можа, сустрэліся і разышліся яны,
(часу мелі замала) кожны ў свой бок.
Вось і прыгадваюць зараз яны
вечар дажджлівы па-над Еўропай,
горад стары, што празяб ад вады,
вежы-званіцы, што нібы сіроты,—
смешна і весела Рэмбо і Марксу.

Ужо багата часу праляцела,
яны ж памаладзелі на стагоддзе.
Маркс
у сваім памятым пінжаку,
у чаравіках, што не мелі зносу,
з усмешкаю філосафа заўсёднай,
а Рэмбо, што дыміць любіў нахабна,

і балбатлівы, быццам стары грамафон,
свае штаны падцягваў цесныя,
і выгляд летуценны ён рабіў,
але навошта,
ён быў, як безгаловая авечка.

Сляпыя ліхтары
Кенінтанскага парку.
Яны адвячэрнім Лонданам ідуць,
глядзяць, ляціць як лена альбатрос,
нібыта вылітыя са свінцу,
ляціць да бухты;
а яны ўжо
на кволенькае воблака глядзелі,
якое раздзіралася на фоне
вохрыстага і сумнага пейзажу Ван Гога.

Пасля яны спускаюцца да моста,
свае старыя піпкі закурылі,
пайшлі да рэчкі, што ламаецца, кружыцца,
бяжыць без мэты, нібыта сляпая,
і самі ў сябе пытаюцца, што вечна гоніць яе
да мора.

Ноч апускаецца на палубу парахода «The Hell» [1],
і нейкі рыбак вітае іх з берага.
У вадзе трымціць вялізная зорка,
аблытаная туманам.

Пад цяжкасцю дажджу, не спяшаючыся,
Маркс і Рэмбо
вяртаюцца ў тое ж самае кафэ на Бул-стрыт,

---

[1] «Пекла» *(англ.)*.

дзе некалі вечарам 1873 года,
спяшаючыся,
таму, што не было магчымасці,
бракавала часу, а цягнік прыбываў
не своечасова, яны не маглі пазнаёміцца.

Калі яны развіталіся,
адзінокі сабака брахаў на свой цень
на вуглу,
а ў глыбіні паэмы
блукаў адзіны сумны цень Верлена.

## Віктар Касаус

(нар. 1944)



### АТРЫМЛІВАЕЦЦА, ШТО МЫ...

Атрымліваецца што мы
у гэтым свеце жывём і на востраве які мы
называем дзівосным
атрымліваецца што бацькі мае
як і дзяды і ўсе мае продкі
па гэтай зямлі ішлі
атрымліваецца што мы прыблукалі
пад Сонца няподаўна
і што мы павінны доўжыць свой шлях
атрымліваецца што цэлы свет ведае нас
па імёнах гэтага вострава
па вымаўленні і говары і па самых доўгіх стужках
на капелюшах
атрымліваецца што мы ў адказе
за самыя справядлівыя злачынствы
і за самую прыгожую ману
і атрымліваецца што нам зусім няпроста было
адстаяць усё што мы здзейснілі
дык ці не час пра нас аднойчы забыцца.

## МЫ ЁСЦЬ

Значыць, мы ёсць.
Мы вышэй жоўтых
літар тэлеграм
на востраве гэтым светлым
створаным пазаўчора.

Мы ўсё яшчэ ёсць са зрэнкамі
зашчанымі расой
з кулакамі сваіх недахопаў
з памылкамі і тымі хто не ведае
і тымі хто ведае ўсё ды памыляўся.

Мы ёсць пад кволымі
усмешкамі зрынутай лагоды
матылькоў. Мы заўжды ёсць
у зоне малой дзе бытуем.

(Так існаваць
адначасна
і на адной паралелі
то перамога найвялікшая).

## ПАЭТЫКА

Прызнацца хачу што ў маёй шафе
тую апратку трымаю якую нашу
некалькі кніжак прасціны сарочкі
маці маёй фотакарткі старыя

забытыя здымкі гадоў тых калі бабуля
няцямна ўсміхалася ў дні свайго
нараджэння.

Але прызнацца я змушаны што не захоўваю там
паэзію
Паэзія знаходзіцца ў квартале маім і ў маім
чаравіку і ў маёй кашулі. Хіба ж будзе паэзія
паэзія застаецца сціснутай сценамі майго пакоя
на паліцах шафы
што я параблю з такой яе колькасцю
прысвоенай і замкнутай?
І таго больш: чым тады поўніцца будуць
парасоны мурашкі людзі
сцягі старыя і зморамыя
правінцыяльныя пісуары адзінота
дождж і дарогі?

## Хесус Кос-Каусе

(нар. 1945)



---

### АПОШНІЯ ЛІСТЫ ВОСЕНІ

Я пра дзяцінства думаю, і свет рынецца ў прорву,
і маці мая з плачам кліча мяне, шукае
у прорве, сярод катастрофы астанкаў.

Я пра дзяцінства думаю,
і бабуля, дзед мой, Жан-гаіцянін,
Зенаіда, Пастараў пёс, Эсперанса,
голад і дождж —
гэта апошняе лісце восені учарашняй, апошняй.

Маці мая — лісток, які ніколі не ападае,
які ўмее трымацца на дрэве,
які зносіць восеньскі сум,
але які сохне і тлее на гольцы.

### ФЛАМБАЙЯН

Я помню яго, калі ён быў толькі зернем,
якое бабуля пасеяла ля парога
і з часам якое выпусціла з-пад зямлі
кволае першае лісце, пудкае і вільготнае.

Мы раслі разам, фламбайян і я.

Сягоння вярнуўся да фламбайяна і шукаю,
ці знойдуцца — на камлі яго, ў яго кроне
мае караблі, мае скарбы, кветка для маці маёй,
або шкілет раба з бабчынага падання.

## ГУІХІ [1]

### 1

Гуіхі на Кубу плылі з Афрыкі
сонныя і прачыналіся толькі тады, калі
чулі гром барабанаў. Штормы змагалі гуіхі
і моры секлі, ішлі насустрач цыклонам
мора Карыбскага. Таму гуіхі — дзеці
дажджоў і жывуць сярод вод. Расказваюць,
што адзін раб, стомлены рабствам, адкрыў
свае гарлачы і збеглі гуіхі, пра тое
ведае пудкі траснік, ведае пальма,
знае пра гэта сінсонтэ [2], ведае поўня,
вока начы той, якое бачыла, як раб прыадкрыў
свае гарлачы, і як гуіхі выходзілі,
пакуль пеў раб песню свабоды.

### 2

З тых часоў ёсць у гуіхаў імёны, як у вояў,
і паходныя барабаны, і ваенныя маршы,
і шпагі каменныя, каб хараніцца

---

[1] Гуіхе (мн. лік — гуіхі) — згодна народному паданню — карлік, маленькі індзеец, які паяўляецца з вады.
[2] Амерыканская птушка, падобная на дразда.

ад крабаў і змей.
Яны — ворагі бізуна і сябры полымя.
Яны ловяць праменне і гром сцерагуць.
Яны перагортваюць вачыма лістоту,
каб усачыць стрэлы маланак,
а на рачным дне маюць гуіхі скарб са святла,
а на паверхні — карту
страчаных зорак.

3

Мараць гуіхі. Мараць яны гэткімі ж стаць, як
галубы і матылі, каб над зямлёю лятаць
і пах кветак красці.
Мараць гуіхі аб сірэнах, жывуць
у светлякоў закаханыя. Яны размаўляюць
са светлякамі і бягуць ад цыкад,
светлякі асвятляюць дарогі, а цыкады хітрыя.
Гуіхі — уладары кветак вясёлак
і поцемкавага супакою. Мараць гуіхі стаць
на ягруму падобнымі, якая ў мораку плача,
помнячы пра раба, павешанага ў яе вецці,
і яны закаханыя ў прыгажосць фламбайяна,
які ўвесь — песня свабоды.
Мройныя закаханыя —
гэта гуіхі.

# Рауль Рывера

(нар. 1945)



---

## МЯНЕ ЗАБІЛІ...

Ён збег.
Як непрыкаяны збег
збег у начную цемру.
Ён бег па чужых слядах
дыбіліся валасы
сэрца ад страху млела.

Ён уцякаў.
Адзінокі і бледны
па сцежках глухіх
і ля рэк прыпыняўся
з выглядам пераможцы.
Вочы узняў перад ім было сонца.
Звінела прастора
паветра звінела
свяцілася раніца над Туркіно [1].
Туды ён з'явіўся босы.

Прыбег без імя.
Ды хаўруснікі тут
добра абулі яго

---

[1] Самая высокая горная вяршыня Кубы.

ахрысцілі
пераўвасобілі
таму што заўжды чалавек
які адчувае віну
шукае такога як сам
магутны ён ці летуценнік
герой ці каварны забойца.

Ён збег.
Ён вяртаецца зноў.
Ён з доўгімі пэйсамі
на галаве пустапарожняй
чалавека які карае смерцю за смерць.

Прыйшоў.
Хаваўся ў раўнінах Камагуэя.
Як мурза ў гразі.
Як вецер беспрытульны
вяршынь Лас-Вільяс
гэты баязлівец баяўся.

З'явіўся.
Стаў ён ворагам спакою
парадку
шаравою бліскавіцай
у дом наш уляцеў.
Ён дзікі небяспечны бы тайфун
што пагражае караблям у моры.

Мой сябра стань пастой крыху
на скрыжаванні вуліц
дзе цяпер
мемарыяльная ёсць дошка
і згадай
ты добрага душою чалавека.

Пастой крыху
і помні што за хлеб
за палкае сваё каханне
якое беражэш кожны дзень
заўсёды гіне
тут вось пад акном
забітае бандзюгам
сэрца Вакерыты.

## САКРЭТ ВАЙНЫ

Ува мне змагаюцца два чалавекі
якія ёсць адзіны чалавек.
Насмерць яны змагаюцца ад раніцы
змагаюцца яны з прыходам ночы
і ў снах заўсёды ворагі яны.

Мае на золку вены закіпаюць
бурліць бруіцца кроў
імкне да сэрца
дзе ёсць засады
ёсць і перастрэлкі
паміж сістоламі і дыястоламі.
Вось трыццаць год ужо не ціхне бой.
А я жыву такі які радзіўся.

## Асвальда Навара

(нар. 1946)



---

### РУЖА

Далоняў маіх кранаецца
рука твая —
смуглая ружа,
у венах кіпіць-хаваецца
то спёкаю, а то сцюжай.

Ружаю спаленай пахне
і колер забрала ў ружы.
І сэрца, чуйнае, тахкае:
ройна пялёсткі кружаць.
Жыцця майго і любові
цёплая, пудкая ружа.

### ГІТАРА

Я падняў яе ноччу над кручай
пад поўняю белаю.
У святле змоклая,
бачыць балюча
было яе ззяблую, задубелую.

Яна быццам ракушка, у якой
душа поўная музыкі мора.
Вушы рукамі закрыў —
супакой? —
грымотныя песні спявае прастора.

Мне ў босыя ногі біліся хвалі,
марскою пяшчотай цёпла віталі,
і музыкаю чаравала,
і зацішна млела сонная далеч,
і поўня плечы твае цалавала.

## ЖАНЧЫНА ПЕРАД ЛЮСТРАМ

Ты аднойчы была прыгажуняй, тады,
калі я кахаў цябе,
і таму, калі ты ўваходзіла ў нерухомы плёс люстра,
плыла рака вачэй маіх, тваё аблічча высвечвала.

За плячамі тваімі горбіўся ўвесь свет,
а зверху — старое неба,
якое, здавалася, мыла святлом тваю галаву,
хоць мне было бачна: лілося святло з адлюстравання.

Гэта была простая помесь жыцця і самоты —
твой мігаючы твар на плёсе ракі, якая
сінія глыбіні свае прыадкрыла, тваю паказала красу.

Ты тут уся, і нельга без дрыжыкаў
грудзі твае сумныя бачыць, і гнуткі твой стан,
і твае горкія вочы, кранутыя росамі.

Шкада мне, што гэтыя фарбы не сталі карцінай,
а святло іх — ні фарбамі, ні вечнай вадой,
тою вадой, якая вочы мае табой поўніць.

Ты камень шпурнула так, незнарок,
толькі калі ён у ваду боўтнуўся,
вобраз твой раскалоўся,
і гэткай, здробленай на кавалкі,
плынь панесла цябе.

* * *

Жыццё без граніцаў,
мэтай паэт акрылёны.
Свет цэлы — ягоны,
паэт не падае ніцма.

## Пераклады зроблены з выданняў:

Antología de la poesía cubana.— La Habana: Editora Nacional de Cultura, 1945.— 446 p.

Acosta, A. Poesías.— La Habana: Ed. Letras Cubanas, 1974.— 120 p.

Tallet, J. Z. La semilla estéril.— La Habana: Ed. Letras Cubanas, 1967.— 110 p.

Marinello, J. Obra Poética: Ed. Unión, 1979.— 126 p.

Martínez V. R. Órbitas: Ed. Letras Cubanas, 1969.—78 p.

Ballagas, E. Órbita: Ed. Letras Cubanas, 1968.— 78 p.

Guillén, N. Obra Poética (en 2 tomos).— La Habana: Instituto Cubano del Libro, 1973 (marzo).— 446 p.

Pita Rodríguez, F. Poemas y cuentos.— La Habana: Ed. Unión, 1965.— 132 p.

Augier, Á. Poesía.— La Habana: Ed. Unión, 1980.— 96 p.

Diego E. Versiones.— La Habana: Ed. Letras Cubanas, 1967.— 126 p.

Fernández O. Sin querer.— La Habana: Ed. Letras Cubanas 1980.— 138 p.

Suardías L. Como quien vuelve de un largo viaje.— La Habana: Ed. Unión, 1975.— 118 p.

Poesía Joven.— La Habana: Ed. Unión, 1978.— 186 p.

## ЗМЕСТ

ЭМІЛІА БАЛЬЯГАС

*Пераклаў Васіль Зуёнак*



ФЕЛІКС ПІТА РАДРЫГЕС

*Пераклаў Рыгор Барадулін*



АНХЕЛЬ АЎХ'ЕР

*Пераклаў Рыгор Барадулін*



ХАСЭ ЛЕСАМА ЛІМА

*Пераклаў Рыгор Барадулін*



МІРТА АГІРЭ

*Пераклаў Васіль Зуёнак*

## ХЕСУС ОРТА РУІС

*Пераклаў Уладзімір Шахавец*



## ФІНА ГАРСІЯ МАРУС

*Пераклаў Уладзімір Шахавец*



## РАЛАНДА ТАМАС ЭСКАДРО

*Пераклаў Уладзімір Шахавец*



## ЛУСІС МАРЭ

*Пераклаў Васіль Зуёнак*

## ВАЛЬДА ЛЕЙВА ПАРТАЛЬ

*Пераклаў Рыгор Барадулін*



## ДАВІД ЧЭРЫСІЯН

*Пераклаў Генадзь Бураўкін*



## ЛУІС РАХЕЛІЯ НАГЕРАС

*Пераклаў Рыгор Яўсееў*



## ВІКТАР КАСАУС

*Пераклаў Мікола Мятліцкі*



## ХЕСУС КОС-КАУСЕ

*Пераклаў Мікола Мятліцкі*



## РАУЛЬ РЫВЕРА

*Пераклаў Рыгор Яўсееў*



## АСВАЛЬДА НАВАРА

*Пераклаў Мікола Мятліцкі*

**Тытунёвая кветка:** Анталогія сучас. кубін. паэзіі.
Т 93 Пер. з ісп./[Уклад. П. Грушко; Прадм. і рэд. перакл. К. Шэрмана].— Мн.: Маст. літ., 1986.— 207 с., іл.
У пер.: 1 р. 50 к.
Анталагічны зборнік сучаснай паэзіі Кубы ўключае ў сябе творы паэтаў розных пакаленняў і творчых кірункаў.

$$T\frac{4703000000-011}{M\ 302(05)-86}182-85$$

**ББК 84.7Ку**
**И(Куб)**

---

**Составитель Павел Моисеевич Грушко**

**ЦВЕТОК ТАБАКА**

**Антология современной кубинской поэзии**

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

Рэдактар В. С. Сёмуха
Мастацкі рэдактар Л. Я. Прагін
Тэхнічны рэдактар Г. Т. Тарасевіч
Карэктар К. А. Крукоўская

ІБ № 1742

Здадзена ў набор 28.05.85. Падп. да друку 18.11.85. Фармат 70×100¹/₃₂. Папера мелаван. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 8,38. Ум. фарб.-адб. 24,27. Ул.-выд. арк. 7,48. Тыраж 2300 экз. Зак. 1503. Цана 1 р. 50 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.